# ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

25 КРАСАВІКА 2003 г. № 17/4203 КОШТ 530 РУБ.

АНОНС!

## МЫ — БЕЛАРУСЫ!

*"Няхай акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!"*

5

КОНКУРСЫ

***Умовы***
правядзення Рэспубліканскага конкурсу на лепшы літаратурна-мастацкі твор.

2

***Валянціна КАДЗЕТАВА:***

"Каб у нас было лепш, трэба кожнаму з нас годна рабіць сваю справу, помніць пра зычлівасць, спагаду ды чуласць".

3



МАСТАК

# СПАКУШЭННЕ УЛАДЗІМІРА ВІШНЕЎСКАГА

*І церні, і зоркі мастак стварае сам...*



чытайце і глядзіце на стар. 12



Андрэй ФЕДАРЭНКА

# ПРАЗАІК НА ФОНЕ ДАРОГ...

"...У многіх пісьменнікаў сама дарога, няважна куды, але дарога, — часта, як абарона ад нуды, чэрствасці, шэрасці, аднастайнасці..."

Эсэ Уладзіміра САЛАМАХІ пра празаіка Андрэя ФЕДАРЭНКУ

чытайце на стар. 4-5

# КОЛА ДЗЁН

**16 красавіка Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка выступіў са штогадовым Пасланнем да народа і парламента нашай краіны. А 19 красавіка Прэзідэнт у рамках рэспубліканскага суботніка ўзяў удзел у будаўніцтве Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.**

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

19 красавіка ў нашай краіне прайшоў рэспубліканскі суботнік. У ім удзельнічала 3 мільёны 428 тысяч чалавек. Зароблена 5.497.700.000 рублёў.

### КРОК ТЫДНЯ

Палітычнае рашэнне аб зняцці візавых абмежаванняў у адносінах да шэрагу афіцыйных асоб Беларусі прынята 14 красавіка на пасяджэнні Савета міністраў замежных спраў краін — членаў Еўрапейскага саюза, якое праходзіць у Люксембургу. Як адзначыў прэс-сакратар МЗС Андрэй Савіных, знешнепалітычнае ведамства станоўча ацэньвае гэта рашэнне і разглядае яго як важны крок на шляху развіцця дыялога паміж Беларуссю і ЕС.

### ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

Яшчэ не закончыліся перамовы паміж Беларуссю і Польшчай, але, калі яны пройдуць паспяхова, то кошт аднаразовай польскай візы пасля ўвядзення гэтай краінай з 1 ліпеня поўнамаштабнага візавага рэжыму можа скласці 5—6 еўра. Льготныя візы будуць выдавацца дзецям і пенсіянерам, непрацаздольным інвалідам, удзельнікам мерапрыемстваў адукацыйнага, культурнага, навукова-тэхнічнага, спартыўнага характару і іншым катэгорыям грамадзян.

### ПРАЕКТ ТЫДНЯ

Савет Міністраў зацвердзіў архітэктурны праект "Участак працягу першай лініі Мінскага метрапалітэна ад станцыі "Усход" да станцыі "Уручча". Гэты праект уключае ў сябе дзве станцыі — "Барысаўскі тракт" і "Уручча", злучаныя паміж сабой тунелямі агульнай даўжынёй 2, 72 кіламетра. Станцыя метро "Уручча" будзе размешчана каля вуліцы Ложынскай — злева ад праспекта Скарыны. Падрыхтоўчыя работы па яе будаўніцтве запланавана пачаць сёлета ў другім квартале, а эксплуатацыя пачнецца ў 2007 годзе. Не спыняюцца работы і па ўчастку ад станцыі "Пушкінская" да "Каменнай Горкі" (працягласць 3,93 км), дзе будуць зроблены тры станцыі — "Ракаўская", "Кунцаўшчына" і "Каменная горка".

### ПРЭЗЕНТАЦЫЯ ТЫДНЯ

У грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы ў нашай сталіцы адбылася прэзентацыя першага нумара "Краязнаўчай газеты", заснавальнікамі якой выступілі грамадскае аб'яднанне "Беларускі фонд культуры", прадпрыемства "Светач" і Уладзімір Гілеп.

### ПАГАДНЕННЕ ТЫДНЯ

Новы від паслуг турыстам, якія накіроўваюцца ў Заходнюю Еўропу, прапанавала прадпрыемства "Мінскі аўтавакзал", якое заключыла пагадненне з польскімі адпаведнымі службамі. Дзякуючы гэтаму пагадненню, цяпер любы пасажыр у касах аўтавакзала "Цэнтральны" зможа набыць білеты на аўтобусы, якія ідуць у любую еўрапейскую краіну з Варшавы, Беластока і іншых гарадоў Польшчы.

### ДОСЛЕД ТЫДНЯ

На "Белкамунмашы" выпушчаны доследны ўзор новага тралейбуса АКСМ-221. Машына створана на базе кузава нізкападлогавага трохдзвернага гарадскога аўтобуса МАЗ-103. Разліковая ўмяшчальнасць новага тралейбуса складае 100 чалавек, колькасць месцаў для сядзення — 22—25. У гэтым годзе мяркуецца выпусціць 34 тралейбусы АКСМ-221.

### ПЛАНЫ ТЫДНЯ

Новы тып праязнога білета для грамадскага транспарту будзе ўведзены кантрольнай службай Мінска. Пластыкавая картка з'явіцца ў продажы ў маі. Транспартнікі спадзяюцца гэтым зменшыць колькасць падробак праязных білетаў.

## НІКОЛІ НЕ ПОЗНА!

**Шаноўныя чытачы! На "ЛіМ" можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 2500 рублёў.**

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

**Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 4000 рублёў.**

**Ведамасны індэкс — 63857.**

**НАДЗЁННАЕ**

**"Міністэрству культуры трэба больш увагі ўдзяляць камплектаванню бібліятэк. Трэба, каб у іх фондах былі прадстаўлены кніжныя навінкі, асноўныя беларускія дзяржаўныя газеты, літаратурна-мастацкія часопісы, дзіцячыя выданні. Беларусь — краіна, якая стварае інфармацыйнае грамадства. Без дзяржаўнай падтрымкі гэту задачу не вырашыць."**

**(З паслання Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі беларускаму народу і парламенту Рэспублікі Беларусь.)**

**ЮБІЛЕІ**

## САМАЯ АБАЯЛЬНАЯ ІТАЛЬЯНКА БЕЛАРУСІ



20 красавіка ў сталічным Тэатры кінаакцёра адбылася творчая вечарына, прысвечаная юбілею заслужанай артысткі Беларусі Любові Румянцавай. Прыхільнікі яе таленту ўбачылі дакументальны фільм "Любоў", зняты рэжысёрам А. Кудзіненкам, які стварыў удалы творчы партрэт актрысы, а таксама другі акт спектакля "Філумена Мартурана", дзе Румянцава іграе галоўную ролю.

Усеагульную любоў і папулярнасць актрысе прынесла роля Джуліі з кінафільма "Альпійская балада" (рэж. Б. Сцяпанаў), адзначаная на Усесаюзным кінафестывалі "Прыбалтыйская вясна" (1966г.) дыпломам "За лепшую жаночую ролю". Многія гледачы тады шчыра палічылі маладзенькую дзяўчыну з чароўнымі вачыма сапраўднай італьянкай. Вобраз стварыўся настолькі пераканальным, што актрысе адна за другой пасыпаліся прапановы зноў сыграць у кіно паўднёвую прыгажуню. Але каб не застацца актрысай адной ролі, яна адмовілася. І, як высветлілася, недарэмна, бо потым Любоў Рыгораўна знялася больш чым у 40 фільмах, стварыўшы незабыўныя вобразы Лены ў стужцы "Годны да нестраявой", Марыны ў "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", Аннычкі ў аднайменным фільме кінастудыі імя Даўжэнкі, Дэліі ў "Міравым хлопцы", Ніны ў карціне "Бацька"... Але кіно Румянцава ўспрымае як своеасаблівую рэкламу для акцёра. Сапраўдная ж праца для яго пачынаецца толькі на тэатральнай сцэне. Як тэатральная актрыса Любоў Рыгораўна пачынала ў маскоўскім Тэатры на Малай Броннай, а пасля пераезду ў Мінск стала адной з першых актрыс ствараемага тады Валерыем Анісенкам Тэатра-студыі кінаакцёра.

Больш сталыя гледачы дагэтуль памятаюць яе Веру з "Вуцінага палявання", з якога і пачынаўся тэатр. Зараз Румянцава задзейнічана ў лепшых спектаклях Тэатра кінаакцёра: у "Талентах і прыхільніках" яна іграе Домну Панцялееўну, у "Пігмаліёне" — місіс Хігінс, у "Філумене Мартурана" — саму Філумену. У апошнім спектаклі ёй зноў давялося стаць італьянкай, магутнай, непаўторнай Жанчынай, якая ніколі не плача. Плачуць падчас гэтага спектакля гледачы — настолькі ўзрушае сваёй шчырасцю дуэт Любові Румянцавай і Пятра Юрчанкова-старэйшага.

Павіншаваць актрысу і проста цудоўнага чалавека прыйшлі многія сябры і калегі Любові Рыгораўны. Першы намеснік міністра культуры Уладзімір Рылатка ўручыў ёй узнагароду Міністэрства культуры краіны, якой адзначаецца вялікі асабісты ўклад у развіццё культуры Беларусі. З падарункамі і цёплымі словамі на сцэну выходзілі кіраўнікі "Беларусьфільма", Саюза кінематаграфістаў, Федэрацыі прафсаюзаў, Саюза тэатральных дзеячаў, гарадскога клуба аматараў тэатра "Таленты і прыхільнікі". З музычнымі падарункамі на вечарыне выступілі непаўторная Наталля Гайда і галоўны рэжысёр Тэатра беларускай драматургіі Валерый Анісенка, які ўзрушыў усіх прыпкнёным выкананнем рамансa. Старшыня Саюза кінематаграфістаў Ігар Волчак падараваў актрысе асенні пейзаж з намёкам на тое, што карціна будзе добра глядзецца ў кватэры Любові Рыгораўны. Намёк гэты, вядома, прагучаў нездарма: сапраўдная зорка нашага кіно і тэатра да гэтай пары жыве ў гасцініцы пры "Беларусьфільме".

"У кожнага чалавека павінен быць свой шанц. Галоўнае — яго не ўпусціць", — кажа Любоў Рыгораўна ў фільме "Любоў". Румянцава свой шанц не толькі не ўпусціла, але і рэалізавала ў сваім творчым жыцці.

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

**КОНКУРСЫ**

# УМОВЫ

**правядзення Рэспубліканскага конкурсу на лепшы літаратурна-мастацкі твор**

***Заснавальнікамі Рэспубліканскага конкурсу на лепшы літаратурна-мастацкі твор з'яўляюцца Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь і выдавецтва "Мастацкая літаратура".***

Конкурс праводзіцца з мэтаю выяўлення новых таленавітых аўтараў, павышэння прэстыжу беларускай мастацкай літаратуры, а таксама канкурэнтаздольнасці твораў беларускай літаратуры на міжнародным кніжным рынку.

У конкурсе могуць прыняць удзел аўтары, якія пішуць на беларускай ці рускай мовах.

Конкурс на лепшы літаратурна-мастацкі твор (проза, паэзія, драматургія) праводзіцца па дзвюх намінацыях: літаратура для дарослых і дзіцячая літаратура.

Для ўдзелу ў конкурсе дапускаюцца неапублікаваныя творы, якія раней у выдавецтвах "Мастацкая літаратура" і "Юнацтва" не разглядаліся. Кожны аўтар можа дасылаць толькі адзін рукапіс.

Конкурс з'яўляецца закрытым. Рукапісы (2 экземпляры) дасылаюцца бандэроллю на адрас: 220600, г.Мінск, праспект Машэрава, 11, выдавецтва "Мастацкая літаратура" з пазнакай "На конкурс". На кожным экземпляры рукапісу павінен быць змешчаны аўтарскі дэвіз. У бандэроль неабходна ўкласці заклеены канверт са звесткамі пра аўтара (прозвішча, імя, імя па бацьку, адрас, пашпартныя звесткі), на канверце павінен быць указаны толькі аўтарскі дэвіз.

Рукапісы, якія дасылаюцца на конкурс, павінны быць аформлены ў прыдатным для разгляду выглядзе. Друкавацца творы неабходна на паперы стандартнага фармату, на старонцы павінна быць 30 радкоў, даўжыня радка 57-58 знакаў, уключаючы прабелы (проза, драматургія). У гэтым выпадку адзін аўтарскі аркуш роўны 23 старонкам машынапіснага тэксту (40 тыс. знакаў). На старонцы паэтычнага рукапісу павінна быць таксама не больш за 30 радкоў. Адзін аўтарскі аркуш паэзіі складае 700 радкоў. Усе старонкі рукапісу неабходна пранумараваць. Для тэкстаў, раздрукаваных з камп'ютэрнага набору, захоўваюцца аналагічныя патрабаванні.

Памер конкурсных празаічных твораў не павінен перавышаць 12, драматычных — 8, паэтычных — 5 аркушаў.

Рукапісы для ўдзелу ў конкурсе прымаюцца на працягу года, пачынаючы з дня апублікавання дадзеных умоў. **Падвядзенне вынікаў завершыцца да 1 кастрычніка 2004 года.**

Для падвядзення вынікаў конкурсу створана журы з прадстаўнікоў Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, супрацоўнікаў выдавецтва "Мастацкая літаратура", вядомых літаратараў, якое будзе знаёміцца з прапанаванымі творамі і ацэньваць іх. На заключным пасяджэнні тайным галасаваннем журы вызначыць пераможцаў конкурсу.

У кожнай з дзвюх намінацый прадугледжваецца па 3 пераможцы (1-е, 2-е, 3-е месцы). Пераможцы атрымаюць Дыпломы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, а іх творы будуць выпушчаны ў свет выдавецтвам "Мастацкая літаратура".

Заснавальнікамі конкурсу прадугледжана шырокая рэкламна-інфармацыйная падтрымка твораў-пераможцаў, а таксама актыўнае "прасоўванне" іх на расійскі кніжны рынак, у тым ліку шляхам выпуску ў свет беларускамоўных твораў у перакладзе на рускую мову.

# І ЎСЁ Ж Я АПТЫМІСТКА...

Жаданне падзяліцца думкамі пра жыццё пісьменніка ў "глыбінцы" вядомае мне не па чутках, узнікала неаднойчы.

Але кожны раз перашкаджалі сумненні: а можа, мой шлях у літаратуру і маё пісьменніцкае "сёння" зусім нецікавыя? Можа, мне проста не шанцуе, ці — што самае горшае — бракуе дару "прыгожага пісьменства?"

І вось я прачытала эсэ Уладзіміра Саламахі, змешчанае на 4—5 старонках восьмага нумара "ЛіМа" за гэты год "Хата Уладзіміра Міхно" і, здаецца, пазбавілася сумненняў наконт "самага горшага" (тэма не тая), што ж тычыцца астатняга, то...

Свой першы твор, невялічкае апавяданне, я даслала яшчэ гадоў дваццаць таму ў... Не, не буду называць гэтае вядомае публіцыстычнае і літаратурна-мастацкае выданне. Прайшоў год. Ніякага адказу не было. Нехта са знаёмых параіў мне патэлефанаваць у рэдакцыю.

Радасны — ці мне падалося? — мужчынскі голас, які належаў даволі вядомаму творцу, прамовіў: "А не будзем мы друкаваць ваш матэрыял!"

Я зрабіла нясмелую спробу высветліць прычыну.

"А не хочам! — не, мне не падалося: голас аж "струменіўся" незразумелай мне радасцю: — Вось не хочам — і ўсё!" — і ў трубцы пачуліся кароткія гудкі.

Гадоў пяць пасля таго "адлупу" я не асмельвалася прапанаваць хоць штонебудзь з напісанага ў якое б там ні было выданне. Аднойчы ўсё ж наважылася. Праўда, спачатку ўважліва прагледзела спіс членаў рэдакцыйнай калегіі. Прозвішча майго "вясёлага адлупшчыка" ў тым спісе не было. Выбрала лепшае, на мой погляд, апавяданне, няўмела перахрысцілася і паклала яго ў канверт.

І зноў год чакання. І зноў, цяпер ужо са страхам, я набіраю нумар тэлефона рэдакцыі.

"Прабачце, але мы яшчэ не чыталі ваш твор. Патэлефануйце праз тры месяцы".

Я патэлефанавала праз чатыры і — якая прыемная навіна: "У вам атрымаўся вельмі добры твор! Чаму вы не пісалі раней? Дасылайце фотаздымак і кароценькую звестку пра сябе. У хуткім часе надрукуем".

Апавяданне надрукавалі... праз тры гады пасля тэлефоннай размовы. Без фотаздымка. Фотаздымак, як мне патлумачылі, "недзе згубіўся".

Але, як бы там ні было, а ўсё ж надрукавалі! Ці ж ёсць большая радасць для аўтара.. Можа, для каго ўсё адно: пісаць "у стол", ці для чытача, мне ж не ўсё роўна. Хаця, вядома, адпаведная інтанацыя ў артыкуле У. Саламахі, зразумелая. Ды і праблема ўзнята надзённая ў пісьменніцкім жыцці...

Пасля першай ўдачы ў мяне з'явілася "крамольная" думка: а што, калі даслаць адно.., не, ажно два апавяданні ў "Маладосць"? Мае творы — і ў "Маладосці"? Гэта было для мяне амаль фантастыкай.

Якім жа было здзіўленне, калі праз нейкія два месяцы я атрымала ліст ад Віктара Гардзея, рэдактара аддзела прозы, паважанага мной — ды і хіба толькі мной? — пісьменніка. І які зычлівы ліст!

Я, далёкая ад закулісных спраў пісьменніцкага асяроддзя, не ведаю, хто і што гаворыць пра "Маладосць". Асабіста я скажу адно: я вельмі ўдзячная ўсім тым маладосцеўцам, хто з такой прыязнасцю, шчырасцю і далікатнасцю сустрэў першыя мае творы, хто пастараўся, каб як найхутчэй у "Бібліятэцы часопіса "Маладосць" з'явілася на свет мая першая кніжка прозы, а потым даў сваё блаславенне на ўступленне ў сябры пісьменніцкага саюза. Гэта і Генрых Далідовіч, і Віктар Гардзей, і Анатоль Казлоў, і Уладзімір Саламаха, і Казімір Камейша, і Алесь Камароўскі.

У хуткім часе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура", кіраваў якім тады Георгій Марчук, з пазнакаю "першая кніжка празаіка" выйшаў зборнік маіх апавесцяў і апавяданняў "Ля трох пуцявін". Тады мне думалася, што далей будзе прасцей, і я спешна пачала збіраць матэрыял для новай кніжкі. Недзе на пачатку 1999 года адвезла рукапіс у "Мастацкую літаратуру". Ні тэлефанаваннямі, ні наведваннямі выдавецтву не дакучала і не дакучаю. Ведаю, жыць нам выпала не ў лепшы час. Зараз усім не проста. Выдацца ж за свае грошы не выпадае. Іх проста няма.

Што ж, няма дык няма. Праўда, іншым разам трымаеш у руках новую, багата аформленую кніжку якога сталічнага аўтара і міжволі думаеш: "Калі "няма грошай", то чаму так часта, ці не штогод, у дзяржаўным выдавецтве выходзяць кнігі, на вокладцы якіх адны і тыя ж прозвішчы? Можа, у кнігах тых — шэдэўры? Але ж не, не шэдэўры, далёка не шэдэўры...

Што ж, няхай гэта застаецца на пісьменніцкім і чалавечым сумленні "прабіўных" за дзяржаўны кошт, як застаецца і многае іншае, у прыватнасці, іх адносіны да нас, правінцыялаў.

Успамінаецца адзін выпадак. На пісьменніцкім з'ездзе Іван Кананові, рэдактар маёй "першай кніжкі празаіка", звярнуўся да аднаго мінскага паэта, здаецца, з бумбамлітаўцаў (ва ўсякім разе з тых "маладых ды ранніх", хто лічыў сваю творчасць "началом всех начал" і, прэтэндуючы на арыгінальнасць, апяваў каналізацыйныя трубы і фізіялагічную дзейнасць чалавечага арганізма): "Вось, пазнаёмся – наша калега з "глыбінкі" – і назваў маё прозвішча.

"Ды няўжо?! Няўжо гэта яна сама?! — бумбамлітавец па-блазенску скрывіў твар, імітуючы бязмежнае шчасце. — Я так марыў пра сустрэчу з вамі! Я ў захапленні ад вашых вершаў! "Каханне-расстанне!" Ёсць жа таленты і ў правінцыі!".

"Пайшоў прэч, смаркач! — хацелася крыкнуць мне, але я спакойна прамовіла: "Вершаў, малады чалавек, я ніколі не пісала і не пішу. А паводзіць сябе так нягожа, зусім нягожа."

Здавалася б, "было той бяды", але ў сваю "правінцыю" я ехала з сапсаваным настроем. Руціна паўсядзённых клопатаў, што чакала мяне там, палепшыць маё самаадчуванне не абяцала. Па-першае, праца ў школе... Толькі той, хто меў магчымасць зведаць смак настаўніцкага хлеба, зразумее мяне.

Па-другое, з дзесятак "заявак" ад жыхароў нашага Богам і ўладамі забытага пасёлка. Так сталася, што з усімі сваімі малымі і вялікімі праблемамі пасялкоўцы ішлі да мяне: "Ты ж граматная! Дапамажы, напішы!"

Адмовіць нельга — крыўдзяцца. Іншым разам гэтая пісаніна адбірае ўвесь вольны ад настаўніцкай працы час. І "пісаніна", заўважце, бясплатная ў прамым сэнсе гэтага слова, бо вясковыя людзі яе за працу не лічаць; "Пісаць — не араць". Што ж да ганарараў, дык яны мізэрныя. Крыўдна, што часам не лепшым чынам ставяцца да нас, пісьменнікаў-правінцыялаў, і некаторыя мясцовыя кіраўнікі. Напрыклад я раз-пораз атрымлівала ад іх такую "плату" за сваю творчасць: пагардлівыя парады пісаць "романы" замест крытычнай публіцыстыкі, ды прымітыўныя пагрозы тыпу "Калі не перастанеце, то..."

Вядома, "...все это было бы смешно, когда бы не было так грустно".

А па-сапраўднаму "грустно" было мне напярэдадні майго юбілею, які збіралася адзначыць раённая бібліятэка. На маючае адбыцца мерапрыемства ўжо запрасілі некалькі гомельскіх і нават мінскіх пісьменнікаў. Рыхтавалася да свайго свята і я. І раптам з бібліятэкі патэлефанавалі: "Прабачце, калі ласка, але мерапрыемства адмяняецца". "Вы хочаце сказаць, што яно пераносіцца?" — удакладніла я. "Не, зусім адмяняецца..." "Раён" забараніў?" — здагадалася я (акрамя пісаніны, была ў іх яшчэ адна прычына антыпатыі да мяне, пра яе гаварыць не буду).

"Не, не тое каб забараніў, — мая субяседніца сумелася, — але... Яшчэ раз прабачце".

Праз нейкі час "раён" урачыста адзначаў юбілей аднаго з "самадзейных жлобінскіх паэтаў". Мяне на ўрачыстасць не запрасілі, як, дарэчы, не запрашаюць ні на якія культурныя мерапрыемствы, апроч тых, у якіх бяруць удзел мае выхаванцы (я кірую гуртком вершаскладання ў школе). Ды і, калі казаць праўду, у мяне даўно ўжо знікла жаданне там прысутнічаць.

Адзінай радасцю ў шэрым правінцыйным побыце сталі для мяне рэдкія паездкі — далёка! — у Добруш, утульны і прыгожы гарадок на Іпуці, за трыццаць кіламетраў ад якога знаходзіцца мая родная вёска Мікалаеўка. Я потым доўга жыву ўспамінамі пра цеплыню сустрэч са сваімі чытачамі, з гарадскімі і вясковымі бібліятэкарамі, з работнікамі аддзела культуры. Гадоў дзесяць мару пра тое, каб пераехаць туды назусім, але мара пакуль застаецца мараю.

Пасёлак Лукскі, дзе мне выпала жыць больш за дваццаць гадоў, стаіць (калі перафразую класіка) "на ўзвышшы, адкрытым усім вятрам". Ні рэчкі, ні лесу. Для мяне, страснай аматаркі прыроды, гэта хіб даволі значны: даводзіцца выпраўляцца ў лес за дзесяць-пятнаццаць кіламетраў. Але я неўзабаве прымірылася: не так гэта ўжо і далёка. Затое пасёлак быў з ліку перспектыўных: домабудаўнічы камбінат, торфабрыкетны завод, ПМК, два дзіцячыя садкі, дзве бібліятэкі, некалькі магазінаў, сталовая, Дом культуры. Амаль кожную гадзіну хадзіў аўтобус да Жлобіна.

Сёння Лукскі ўяўляе сабой сумнае відовішча: паўразбураныя будынкі былых прадпрыемстваў, уздыблены асфальт, брудныя вуліцы, павальнае мужчынскае і жаночае п'янства, высокі ўзровень злачыннасці, наркаманія і ... СНІД. У дадатак да агульных, здарылася трагедыя і ў маім доме. Вінаўніцай той трагедыі памылкова палічылі мяне. Было судовае следства. Памылка высветлілася, але пляма засталася. Я і цяпер яшчэ з асцярогай выходжу на вуліцу: зноў якаянебудзь нецвярозая няголеная істота кіне мне ў твар абразлівыя словы і зноў наперадзе будзе бяссонная ноч...

У мяне трохпакаёвая кватэра з усімі выгодамі. Але з вялікай радасцю я аддала б яе за аднапакаёўку ў Добрушы ці Гомелі. Там жыве хоць і нешматлікая, але блізкая і далёкая мая радня. Толькі ж за тыя "капейкі", што прапаноўваюць мне патэнцыяльныя пакупнікі кватэры, я не змагу прыдбаць хоць якое жытло ў тым жа Добрушы. Адкласці што-небудзь з настаўніцкага заробку немагчыма. Трэцюю яго частку "з'ядаюць" камунальныя паслугі. Да таго ж адзін з двух маіх сыноў яшчэ "не ўладкаваны".

Іншым разам, даведзеныя да адчаю нішчымніцай, мы з адной з каляжанак-настаўніц шыем цацкі са штучнага футра і гадзіны ў тры ночы выпраўляемся ў Жлобін, каб выручыць хоць якую дробязь і паспець на ўрокі.

Вось такое жыццё. Здаецца, ці да творчасці тут? Толькі ж што рабіць, калі прырода ці то ўзнагародзілася, ці то пакарала цябе, зрабіўшы патрэбу пісаць такой жа патрэбаю, як патрэба есці, дыхаць, жыць. Пішу начамі перад выхаднымі. А выхадных у мяне, дзякуючы спагадлівасці і дабрыні школьнай адміністрацыі, ажно два. Пішу, чакаю той пары, калі можна будзе пайсці ў лес, на луг, спадзяюся, што ўсё ж пабачыць свет яшчэ хоць адна мая кніжка. Праўда, гадоў мне ўжо... Але нічога. Жыву.

Перачытала напісанае, і стала няёмка: атрымалася нешта накшталт споведзі песімісткі. Але ж я зусім не песімістка, а хутчэй наадварот. Кажуць, бывае і горш. Толькі ж, як сказаў у адной з тэлеперадач наш знакаміты драматург Аляксей Дудараў, "мяне ніколі не суцяшае, што недзе яшчэ горш". Горш то горш, але каб у нас было лепш, мабыць трэба кожнаму з нас годна рабіць сваю справу, помніць пра зычлівасць, спагаду, ды чуласць. Між іншым, калі гаварыць пра пісьменнікаў, рэдакцыйныя і іншыя калектывы, дык як казала, асабіста да мяне, як да пачынаючага аўтара, сапраўды шчыра, з клопатам паставіліся менавіта ў "Маладосці".

**Валянціна КАДЗЕТАВА**



## У ЗАЛЕ — ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ

**Здавалася б, столькі стагоддзяў мінула, а мы ўсё яшчэ час ад часу спрачаемся аб тым, што адбывалася ў старажытнай Беларусі. Дзякуючы таленавітым даследчыкам нашай спрадвечнай**



**Бацькаўшчыны і больш спрыяльнаму часу, можам многае прачытаць, убачыць, удакладніць... Але бачыць старажытную гісторыю Беларусі ў адной выставачнай зале — такое, пагадзіцеся, бывае вельмі і вельмі рэдка. Светлагорцам — пашанцавала. Мы маем гонар прымаць у сваёй карціннай галерэі персанальную выставу твораў аднаго з самых таленавітых мастакоў летапісцаў старажытнай Беларусі Міхаіла Басальгі. Больш за 30 гадоў ствараў яе мастак.**

**...Дык вось яны якія — Анастасія Слуцкая, Юрый Радзівіл, Канстанцін Астрожскі, Вітаўт, Ягайла, Леў Сапега, Давыд Гарадзенскі, Еўфрасіння Полацкая, Рагнеда, Францыск Скарына... А яшчэ — прадстаўнікі княскага роду Алелькавічаў. Гістарычная канкрэтнасць ва ўсім стварае такую яскравасць характараў, такую натуральнасць, якой проста нельга не верыць. Гэта не проста партрэты, а летапіс чалавечага духу. Зрэшты, не менш пераканаўчы мастак і ў шматлікіх батальных творах. Нібыта праз стагоддзі бачым бітвы пад Грунвальдам, пад Слуцкам, на Чудскім возеры, на Нямізе... Адразу ж прыгадваюцца бессмяротныя радкі "Слова аб палку Ігаравым". Мастак сапраўды вельмі дакладны, здавалася б, у самых дробязных дэталях, рэаліях, і пры ўсім гэтым застаецца на дзіва натуральным, вольным рабіць тое, што вынікае з яго шчодрага таленту. Ён цудоўна валодае ўсімі таямніцамі графічнага майстэрства і эмацыянальнай пластычнасці.**

**Ці трэба гаварыць аб тым, што каляровая графіка — адзін з самых складаных і... працаёмкіх жанраў выяўленчага мастацтва. Змешаная тэхніка, аўталітаграфія, каляровы лінарыт — усё гэта толькі сродкі для выяўлення творчых асаблівасцяў мастака. Ён — адзін з найвыдатнейшых ілюстратараў кніг, якія сталі не толькі нашай класікай. Вось цыкл гравюр да купалаўскага "Кургана", да кніг "Адкуль мы", "З цемры стагоддзяў нам свецяць абліччы".**

**Было што сказаць слыннаму мастаку, яго сябрам, якія прыехалі разам з ім на ўрачыстае адкрыццё выставы. Гэта намеснік старшыні праўлення Беларускага Саюза мастакоў Віктар Нямцоў, прэзідэнт акадэміі выяўленчага мастацтва Фелікс Янушкевіч, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Валерый Славук, а таксама Георгій Скрыпнічэнка і дачка Міхаіла Самойлавіча Вольга, мастацтвазнаўца. Усхвалявана гаварылі пра мастака шырокага гістарычнага гучання і наведвальнікі галерэі. Агульнаму ўсведамленню гісторыі Беларусі паспрыялі гучаннем цымбалаў юныя выхаванцы мясцовай музычнай школы. Між іншым, амаль дзве гадзіны, што папярэднічалі адкрыццю выставы, шаноўныя госці з Мінска прысвяцілі аналізу малюнкаў светлагорскіх школьнікаў. І тут варта прыгадаць, што М. Басальга з'яўляецца дырэктарам мастацкага вучылішча імя Глебава.**

**— Я вельмі ўзрушаны тым, што ў маленькім правінцыйным горадзе ёсць такі асяродак культуры зусім не правінцыйнага кшталту. Удзячны за сардэчную шчырасць і разуменне маёй творчасці, — пачулі мы ад Міхаіла Самойлавіча.**

**Нам застаецца дадаць, што на працягу месяца светлагорцы і госці горада могуць далучыцца не толькі да творчых здабыткаў аднаго з лепшых мастакоў Беларусі, але і да старажытнай гісторыі нашай краіны.**

Ізяслаў КАТЛЯРОЎ,
дырэктар Светлагорскай карціннай галерэі "Традыцыя" імя Германа Пранішнікава

*НА ЗДЫМКУ: М. БАСАЛЬГА з жонкай Тацянай у час адкрыцця выставы.*
*ФОТА Віктара СТРЫБУКА*

# НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ

Шматгранныя аспекты літаратурнага жыцця, "кухню" творчасці, знаёмства з цікавымі людзьмі — гэта ўсё, як заўсёды, слухачы атрымаюць, паслухаўшы аўтарскія праграмы "Брама", "Авансцэна", "Палітра", "Сентыментальнае паляванне", якія будуць гучаць, як звычайна ў 22 гадзіны 30 хвілін у аўторак, сераду, чацвер і пятніцу.

А ў суботу, у 10-45 — "Літаратурны праспект", які рыхтуюць Алесь Бадак, Вольга Сямашка, Маргарыта Прохар. У нядзелю з навінкамі кнігарняў знаёміць "Кніжны кіёск".

Ёсць свой удзячны слухач у "Кароткіх гісторыях", якія гучаць штодзённа, акрамя выхадных, у начным эфіры.

## КАНАЛ «КУЛЬТУРА»

"КЛУБ ДАМАСЕДАЎ". Панядзелак-аўторак, у 11.00 чытаем разам "Калядную рапсодыю" У. Караткевіча, у сераду ў гэты ж час — сустрэча з супрацоўнікамі часопіса "Крыніца".

"ЛІТАРАТУРНЫ АЎТОРАК" у "Сімфоніі дня" 20 красавіка прапануе: у 12.10 — "Дзеяслоў" Л. Рублеўскай, у 13.10 — "Таленты з глыбінкі" М. Прохар, адрас якіх на гэты раз — горад Асіповічы, у 14.10 — "Магія творчасці" З. Каваленкі, у 14.40 — Сугалоссе" У. Дзюбы пазнаёміць з апавяданнем амерыканскага пісьменніка Дышэла Хэмета "Справа Гейтвудаў" (пераклад на беларускую мову Я. Міклашэўскага), з 15.00 — "Ліставанні" І. Рыбіцкага, у якіх — эпісталярная спадчына рускага паэта Ф. Цютчава, у 15.30 у "Паэтычным радыётэатры" — кампазіцыя паводле велікодных вершаў "Ударыў звон па Беларусі, у 16.10 — "Гаспода" Г. Шаблінскай, тэма "Праз цяжкі парог, або Колькі жыццёвых і літаратурных згадак паэта Р. Рэлеса" — да 90-годдзя з дня нараджэння (паўтор — у суботу, у 10.10).

Н. К.

---

• Прэзентацыя адразу дзвюх кніг выдавецтва "Мастацкая літаратура" адбылася ў Доме прэсы ў Мінску. Першая з іх — раман Элізы Ажэшкі "Над Нёманам", які ў перакладзе Анатоля Бутэвіча выдадзены ў серыі "Скарбы сусветнай літаратуры" і тым самым засведчыў, што гэтая папулярная бібліятэка пасля перапынку працягвае жыццё. Другая ж кніга — толькі на падыходзе да чытача. Гэта зборнік "Там, дзе вежы Сафіі" ("Полацк літаратурны"), якім выдавецтва "Мастацкая літаратура" пачынае новую серыю "Беларусь літаратурная".

Што да рамана Э. Ажэшкі і перакладу яго, дык нашы чытачы падрабязней могуць даведацца пра гэта з матэрыялу Алеся Марціновіча, апублікаванага на стар. 6. Да сказанага трэба дадаць, што А. Бутэвіч, расказваючы аб сваёй працы над перакладам гэтага выдатнага твора Э. Ажэшкі, правёў вельмі ўдалую паралель з беларускай літаратурай, зазначыўшы, што аўтар рамана "Над Нёманам" па сутнасці падступалася да тых праблем, якія затым знайшлі сваё глыбокае ўвасабленне ў творчасці І. Мележа.

З кнігай "Там, дзе вежы Сафіі" прысутных падрабязна пазнаёміў яе ўкладальнік Навум Гальпяровіч, зазначыўшы, што ў зборнік увойдуць творы полацкіх аўтараў, пачынаючы ад Еўфрасінні Полацкай і Сімеона Полацкага і завяршаючы тымі, хто ўваходзіць у суполкі "Таварыства вольных літаратараў" і "Полацкая ветвь". Пра тое, што робіцца ў гэтым старажытным беларускім горадзе па культурным зберажэнні нацыянальнай спадчыны, прапагандзе яе гаварыў старшыня Полацкага гарвыканкама Уладзімір Тачыла.

А папярэднічала іх выступленням грунтоўнае слова галоўнага рэдактара "Мастацкай літаратуры" Уладзіміра Марука, які паведаў пра некаторыя планы выдавецтва, а таксама пра кнігі, што і прэзентаваліся сталічным журналістам. З сустрэчы стала відавочна, што "Мастацкая літаратура", дзякуючы свайму новаму кіраўніцтву, а таксама падтрымцы з боку Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь сёння па сутнасці перажывае сваё другое нараджэнне.

Алесь ВІШНЕЎСКІ



# ПРАЗАІК НА ФОНЕ ДАРОГ...

*Два найвышэйшыя званні — пісьменнік і чалавек.*
*Адно мне вельмі хочацца набыць, другое — яшчэ больш — не страціць.*
**Янка БРЫЛЬ**

За матэрыял "Па дарозе да нашых матуль" адзін калега, з былых літначальнікаў добра-такі мне ўсыпаў. Але: "Все туман и дорога. Все фон и фон. И нет действия... И не известно что старухи прошамкали... Так и моя старая может. Так что, писать про нее?..»

Сапраўды, мабыць ён мае рацыю: туман і дарога — фон. А што да таго слова, якім ён назваў нашых матуль і сваю маці, дык як сказаць...

Ну што ж, іншы раз калі спынішся ў мітусні дзён, як надакучаць — трываць немагчыма! — пісьменніцкія сваркі, наогул усялякая чалавечая незычлівасць (і яе хапае паўсюль), іншая бязглуздзіцца ў жыцці, то чамусьці здаецца, што на гэтым "фоне" іншая наша пісаніна (жизненные сочинения) — пустое. Сапраўды, калі за чубы хапаешся, дык не да суперажыванняў. Шмат дзе не прымаецца памкненне таго, хто на цябе не падобны, ды і не хоча быць такім, як ты. А вось указваць, настаўляць, патрабаваць ад іншых — невядома што — калі ласка, толькі дай магчымасць, тым больш — хоць якую ўладу...

Вось у такой плыні свядомасці, выкліканай заўвагамі калегі, нібы ні з таго ні з сяго ўспамінаецца мне даўняя мініяцюра Янкі Брыля адносна фону, як мне думаецца, прыдатная і для мінулых і для сённяшніх нашых часоў (хаця сёння, можа, у меншай ступені: усё ж іншы раз з такімі не вельмі цацкаемся...). Вось яна: "Тава-рыш, якога ўжо трыццаць год кідаюць то на дзёгаць, то на оперу, усюды разбіраецца аднолькава. Але ж усюды кіруе. Цяпер, кіруючы выхаваннем будучых жывапісцаў ды графікаў, прыехаў праверыць, як паводзяць сябе студэнты-мастакі на летняй практыцы.

— Чаго сядзіце тут, а не рысуеце?

Аказваецца, чакаюць натуршчыкаў. Калі так:

— Ну дык пакуль рысуйце фон!.."

Прашу прабачэння ў Івана Антонавіча Брыля, што цытую, не спытаўшы яго дазволу. Разважаю так: гэта — класіка. Значыць, і я магу далучыцца да яе чытання і цытавання. Зрэшты, ужо не адно стагоддзе сцвярджаецца: вучыцеся ў класікаў. Толькі, лёгка сказаць, вучыцеся. А калі яно не заўсёды і не ўсімі "вучыцца"? Бывае хоць тысячу разоў прачытай, але калі табе не дадзена, дык не дадзена.

Але, загваздка: вучымся, вучымся і ў школах, і ў інстытутах, і ў акадэміях, толькі часам карысці з таго мала. І як даўно, і не мной заўважана прыедзеш у сваю, ці ў якую іншую вёску, да маці сваёй, (калі ў каго дзякуй боку яна жывая здаровая), ці з таварышам да яго маці (запросіць), і раптам яна скажа адно-два словы, пра жыццё і разумееш, што блякне перад ёй і твая, і чужая пісаніна, розныя трактаты, філасофскія развагі і г.д. А маці тая ж — непісьменная... Вось і асмелься, калі сумлення хопіць, назваць яе, як калега-апанент тым словам з адпаведным значэннем, словам, якім называе і сваю, і чужую маці. (Так сказать, старая на фоне наших произведений.)

Так, сябры, ну ніяк не дае мне спакою ў сувязі з гэтым паняцце фон, і ўсё, што з ім, ды з прыгаданай мініяцюрай звязана. Вось не вельмі даўняе. Той наш цудоўны празаік, якога вы бачыце на першай старонцы газеты неяк надрукаваў у адным шаноўным часопісе свой новы твор. Тыя, хто больш-менш разумеюць, што такое сапраўдная літаратура, прачытаўшы, зайздросцілі. Здаецца, большасць, па-добраму: "Ну Андрушка, — майстар!..." Асабліва стараліся мы, крыху старэйшыя (лічыцца, таму разумнейшыя, ды нібыта мудрэйшыя) у нас крэселкі крыху большыя, чым у яго (лічыцца, ад пасадаў мудрасць). Хвалім, але не кожны шчыра. А побач маладыя хлопцы, увогуле някепскія людзі, але ўжо паспытаўшыя ўлады над творцамі, памылкова прыстаўленыя да літаратуры, (праўда, памылку потым выправілі). Да таго ж падобныя на "таварыша", якому ўсёадно, што "дзёгаць", што "опера"! Паслухайшы размову, пайшлі з праверкай у рэдпакой: што пісьменнікі робяць... А ў пакоі — гэты непаўторны празаік з сябрамі: радасныя, поспех жа... А калі так, гнаць такіх трэба.... Маўляў, старая, наверное, тебе последнее шлет.. О, у каго нужно вучыцца: ды тыц пад нос яго ж твор..."

Ёсць такое паняцце, як такт чалавечы. І пісьменніцкі. І ў мяне паралель, зноў жа: тады малюйце фон...

А ўвогуле, пратэст усё ж быў. Ускосны. Празаік, нейкім чынам давяраючыся мне, як чалавек (можа таму, што некалі быў рэдактарам яго першай кнігі) папрасіў, каб я тэрмінова звёз яго адсюль. Далей, далей, далей... Разумеў: яму абрыдла.

Тут я павінен сказаць, што празаік не першы раз выбіраў такую форму пратэсту, як дарога, супраць таго, што закранала яго чалавечы і пісьменніцкі гонар. І як я заўважыў, не толькі ў яго, але і ў многіх пісьменнікаў сама дарога, няважна куды, але дарога адтуль —часта, як абарона ад нуды, чэрствасці, шэрасці, аднастайнасці. І як ціхі своеасаблівы пратэст. Бачыў, і таксама не раз — яна нібы ачышчае. (Зрэшты, пра гэта можна здагадацца прачытаўшы іх творы, дзе ў кожнага дарога — свая.)

Андрэй жа, натура па-свойму ўражлівая. І, калі так, пры ўсёй іншы раз нібы непахіснай яго пазіцыі, безабаронная. Я неаднойчы бачыў, як яго (хоць ён і не паказвае гэта) такія, здаецца, нечым нязначным даводзілі да таго стану, калі "ўсё тут абрыдла". Але таксама бачыў, як ён самотны, усё ж можа пастаяць за сябе. Скажам, можа кінуць лёгкі выклік якой рэплікай, або паводзінамі таму што выходзіць па-за межы яго разумення прыстойнасці. І тое, што кажуць, быццам Андрэй любіць, каб яго хвалілі, дык мне здаецца — гэта таксама нішто іншае, як адна з формаў яго падсвядомай абароны ад усяго таго, што не прымае душа.

Магчыма, я памыляюся. Магчыма, усё крыху не так. Але тое, што Андрэй любіць дарогу, якая ачышчае, ратуе, абараняе (няважна куды) — факт...

Дык вось, тады пасля прыгаданага анекдатычнага выпадку Андрэю проста хацелася вырвацца з горада. З яго фону. Які нібы, павуцінне, аблытваў. І, калі ўжо садзіліся ў машыну, я ведаў, што ён скажа мне пра дарогу. І, як неаднойчы было раней, Андрэй сказаў:

— А ведаеш, па Мележавым рамане "Людзі на балоце" я даведаўся, што Іван Паўлавіч быў вялікі аўтааматар і любіў дарогу.

— Не, ведаю — знарок адказаў я.

— Тады слухай, як ён апісвае дарогі Міншчыны... Помніш, мужчыны гавораць пра вайсковыя вучэнні, якія некалі таму-сяму з іх далі магчымасць пабачыць свет далей Куранёў. Дык пасля Чарнушка пытае, "Як там землі пад Мінскам". Адказвае Руды, маўляў, "Зямля, як зямля". "Ды не сказаць, каб такая, як наша". Пярэчыць яму Міканор. І далей: "Сушэй багато... Балот дак рэдко, можа сказаць, болей — палі, палі ды лес. І лес, можна сказаць, інакшы — без канца чысты сасняк... Багато вельмі горак. Бувае так, што як глянеш з каторай, дак так і бачыш: горкі і горкі, з полем ды з лесам. Але пакуль відно..."

Ён на хвіліну змоўк. Потым: "Каб так бачыць зямлю, трэба ехаць на машыне. Згодны? Вядома, Міканор у той час канечне ж, на машыне ехаць не мог. А вось Іван Паўлавіч... Ды бачна, што любіў і адчуваў дарогу.

Прызнаюся, я доўга не разумеў ягонай вось такой просценькай радасці, асабістага адкрыцця таго, што Мележ быў аўтааматарам праз гэтыя радкі твора вялікага пісьменніка. Больш таго, здаецца, пра падобнае ці дзе чуў, ці чытаў. Можа, і ў Яна Скрыгана, калі не памыляюся. Толькі мне здаецца, што ў такія мінуты Андрэю падсвядома хочацца быць падобным на свайго славутага земляка: чалавека, пісьменніка. І няма тут нічога кепскага: хай! А нібыта ягоная слабасць: каб добра казалі пра творы — заканамернасць: яны сапраўды добрыя. І спадзяюся, месца сваё ў гісторыі літаратуры зоймуць...

Тады я яму сказаў, што сапраўды, каб так бачыць дарогу і зямлю пад Мінскам, як бачыў Мележ, дык трэба ехаць па ёй на машыне, як мы зараз. І там, дзе "болей — палі, палі ды лес". Дзе "багато вельмі горак". Сапраўды, калі на хуткасці "глянеш з каторай, дык так і бачыш: горкі і горкі, з полем ды з лесам". Так, так, "аж пакуль відно..." А гэтага там, асфальт, дзе горкі зрэзаны бульдозерамі, дзе дарога не спрамлена — не...

Едзем. Вуды заўсёды ў мяне. Збочыўшы з трасы Мінск-Вільнюс. Да Ісլачы. Прасёлкамі. Не да той Ісլачы, што за Ракавам, за пісьменніцкім Домам творчасці, дзе здратаваны лугі, пакалечаны кусты, засмечана, дзе рачулцы цесна ў вузкім вілюжыстым рукаве, а далей. За Ракаў. За Падневічы. У лясы. Ведаю, яны нечым падобны на яго, Андрушавы, лясы. Пра якія нямала напісаў. З якіх, між іншым, не раз "маляваў фон" для твораў, і зараз часам "малюе фон". Але па сваім уласным жаданні, а не па чыёйсьці ўказцы.

Дарогі, якія я выбіраў, добра іх ведаючы, былі такія ж, як дарога ў Мележа. Вядома, праз паняцце — зямля. Толькі зараз абапал нас дарога гэтая абмалёўвалася вёскамі і вёсачкамі, зжатымі жытнёвымі палямі, статкамі ў далёкіх выгаралых лугах, лясамі і пералескамі, небам. І ў ва ўсяго гэтага быў свой колер. Для мяне, дык такі... Жоўтая пульхная стужка перакінутая з-пад капота праз пагоркі ў залацістую далёкую смугу... Светла-шэрыя хаты збоч, калі раптам чарната акна блісне, як фольга... Зялёныя крывыя мазкі па медзі, месцамі ацяжэлай, ажно да чырвані, з прымессю сінечы... Блакіт з белымі драпінамі...



А калі ехалі па вёсках, па вуліцах, дык абавязкова паўз платы на лаўках сядзелі чыесці маці і бабулькі. Яны, як заўсёды было ў вёсцы, пільнавалі курэй і ўнукаў. Таксама ў кожным чалавечым селішчы, як і было спрадвеку, пачуўшы прыезджых, да якіх скасабочаных веснічак выходзіла жанчына, чыясьці маці. Падобная на тых нашых матуль ("Па дарозе да нашых матуль"), да якіх я вазіў паэтаў і ўглядалася ў нас.

— Чакай, — казаў Андрэй, калі мы праязджалі каля якой маці, што пільна ўзіралася ў нас.

І я на хвіліну сцішваў хуткасць.

Я не працягваў размову. Не развіваў яго думкі, маўляў, вечнае наканаванне жанчын — чакаць: мужа, дзяцей, унукаў. Я вёз празаіка ўсё далей і далей ад таго асяродку, дзе яму, сутыкнуўшыся з чарговым чалавечым глупствам, стала "нудна". Я думаў аб тым, што так будзе паўтарацца з многімі з нас столькі, колькі мы будзем жыць на зямлі: радасць, нуда, нуда, радасць... Але заўсёды ад нуды, праз нейкі час — вяртанне ў радасць... А таксама думаў аб тым, што ніхто ніколі не зможа раз і назаўсёды пазбавіць Андрэя, мяне, ці каго іншага ад свайго ўласнага адчування жыцця і ад той адвечнай прагі — у дарогу...

І вось тая мясціна, якую я добра ведаў, якая мне падабалася і якая, як думаў,

павінна спадабацца Андрэю. Акурат як у яго "Пелі", мясціны, што засталася ад возера дзяцінства, і да якой некалі спачатку ён ішоў сам, калі раптам і дома "занудзіўся", а потым яго герой, абазначаны ў творы, як "я".

«Было гадзін шэсць вечара. Грэла мяккае сонца, лёгка і прыемна ішлося лясной, не выбітай машынамі сцяжынаю; я злавіў, нарэшце, свой рытм: час больш не скакаў, не цёгся да раздражнёнасці нудна, а плыў неяк суладна маім крокам. Пахі яснога долу, верасу і чарнічніку былі ў суладдзі з птушыным шчабятаннем, з нязыркім сонцам, з шорганнем крокаў па лясной дарозе — і доўгачаканая гармонія прыходзіла і ў думкі. Я адчуваў сябе: вось я ёсць, я — жыву, усё ідзе цудоўна, я вучуся, а значыць, на некалькі гадоў ці нават назаўсёды выбраў сабе жыццёвую лінію; я прайдуся па лесе, палаўлю карасёў, а потым цягнік паімчыць мяне да дзівосных берагоў, пра якія столькі наслухаўся і начытаўся...»

Здаецца, на сцежцы, на якой я яго высадзіў (вядзе да ракі) ўсё супадала з той, што ў творы, за выключэннем пары года, узросту пісьменніка. ("Пеля" пісалася гадоў "...надцаць" таму.) Хаця, тут не было цягніка, карасёў, яшчэ таго сяго, як там. Галоўнае ж, меркаваў я, і тут у думкі пісьменніка павінна прыйсці "доўгачаная гармонія"!..

Я ішоў следам. Воддаль. Каб не перашкаджаць. І мне было хораша: прырода, сцежка, пісьменнік на ёй...

І зараз я ўпэўнены, што на гэтай сцежцы Андрэй забыўся на рэдакцыю, на хлопцаў, на горад. Зрэшты, на ўсё, з чым была звязана яго пісьменніцкая існасць. У тым ліку і на пакуты, доўгія, то начныя, то ранішнія, то вечаровыя. У будні і святы. У пошуку таго слова, якім, скажам, можна было б напісаць так, як ён напісаў працытаваны ўрывак з "Пелі".

І таксама я ведаў, што праз нейкі час пасля той нашай дарогі, па якой мы сюды ехалі, пасля гэтай сцежкі, па якой ён ішоў да ракі, пасля мележаўскага напаміну шляху, зямлі, як насаладзейшае імгненне ў Андрэевай душы зноў успыхне прага роднага слова, якім ён у новым сваім творы скажа нам пра жыццё нешта такое, калі ўсе мы, як і раней будзем зайздросціць. Хто падобраму, шчыра. А хто ... Ведаў таксама, што наступіць час, дзень, хвіліна, калі ў часіну яго, Андрушавай, пісьменніцкай радасці ад здзейсненага знойдзецца нехта, хто напракне невядома ў чым. І яго, як і маю, сваю маці, проста так "всуе" назаве не тым словам...

Ісклач бліснула з-за пагорка (рассунуўся зялёна-светлы ельнік, адкаціўся блакітна-карычневы верас) мірыядамі сліпучых срэбна-залацістых бліскавак. Яны скакалі вузкай дарожкай на празрыста-зялёнай плыні.

Рака шумела, гарэзнічала. Вуркатала ў крутых берагах за недалёкім, у карычневых падпалінах (ужо выпальвалі траву) лужком. У чорных карчах, шэрых ствалах паваленых алешын яна шкуматала аблокі. Далей, каля павароткі, залівала белай пенай зялёныя, жоўтыя і шэрыя цені ад усяго таго, што расло на супрацьлеглым пакатым беразе. І мне яшчэ воддаль было відаць, як пад празрыстасцю вады з-пад гэтага берага да таго на амаль карычневых грыўках пяску памчалася з пяток бронзава-залатых стрэл. Даўжынёю ў далоню — стронга.

На беразе празаік знерухомеў...

А праз колькі часу пра прыроду: зноў можна было сказаць ягоным жа радком: "Сонца ўжо спусцілася амаль да самага лесу. Наставаў вечар, таму мацнейшымі зрабіліся пахі. Увогуле, рака, асабліва цёплымі летнімі вечарамі, мае той своеасаблівы, свежы, радасна-непаўторны водар, з якім не параўнаецца ні лясное паветра, ні горнае, ні марское..."

Дык дзе ж тут логіка? — могуць спытаць у мяне. — Дарога, фон, хлопцы, старая, класікі, Андрэй...

Можа, яна тут і не патрэбна. Назаўтра раніцой пазваніў мне Андрэй і радасны, усхваляваны сказаў: "Валодзя, я толькі што напісаў пісьмо МАМЕ пра нашу ўчарашнюю дарогу..."

І высветлілася мне ва ўсім гэтым свая логіка. І вялікая логіка празаіка Андрэя Федарэнкі, сапраўды вартага пісьменніка з яго, і не толькі з яго пакалення, менавіта ў гэтым "МАМЕ..." І якім пустым падалося мне ўсё наша ваяўнічае. Яно далёкае ад жыцця, ад тых вёсачак, паўз якія мы ехалі, ад жыцця тых людзей, якіх бачылі, таксама ад жыцця нашых і чужых матуль, што ўглядаюцца: ці едзе...

І зноўку, новымі гранямі засвяціліся мініяцюры Янкі Брыля з яго даўняй мінікніжачкі "Проблiскі".

Дык вось, у класіка, напрыклад, дарога, як такая, і як дарога чалавечага жыцця бачыцца мне ва ўсіх яго амаль стапяцідзесяці мініяцюрах з гэтай кніжачкі (размова тут толькі пра яе). І думаецца, такая кніжачка, калі ўжо аб ёй, павінна быць настольнай і для нас, хто піша, ды не ведае, як назваць тую адзіную, якая кожнаму дала жыццё, і для тых, хто — "на дзёгаць", "на оперу" і г.д.

У Івана Антонавіча на гэтай дарозе адным словам, але з рознымі адценнямі больш двух дзесяткаў разоў малюецца вобраз маці, мамы, матулі. Праз разуменне гэтага вобраза самога класіка, а таксама праз разуменне хлопчыка, мама якога ў жаху выбегла страціла розум, дзяўчынкісіраты, падлетка, тройчы героя і многіх іншых людзей на іх зямных дарогах. У горы і ў радасці. А як яно гучыць на нашай мове, той, якая паводле Брыля — крыніца ўсяго — дык услухаемся: "Старэнькай маці, калгасніцы, адняло мову...". Памятаеце? Сын прыляцеў. Вучоны. Ад маці не адыходзіць. Калі ж праз два дні яна апрытомнела, дык "першае, што сказала — спыталася: — А ці абедаў жа, сынок?" І ў іншай мове: "У старухи колхозницы..."

Не будзем нікога ні ў чым папракаць, перакладчыка — таксама. Проста падумаем і пра такое гучанне і разуменне гэтага слова, як у любімай песні Пушкіна: "Матушка, голубка, солнышко мое..." (стр. 117)...

Андрэева ж: "пісьмо МАМЕ", асабіста мне сказала пра яго, як чалавека і пісьменніка больш, чым цэлыя кнігі некаторых з нас, для каго маці — старая...

**Уладзімір САЛАМАХА**




**ЗАХАРАВА, 19**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

**прымае да разгляду:**

***выдавецкія праекты самай шырокай тэматыкі;***
***выканае ўвесь спектр рэдакцыйна-выдавецкіх паслуг (ад рэдагавання рукапісу да выдання і распаўсюджвання кніжнай прадукцыі);***
***арганізуе рэкламу і прэзентацыю выданняў.***

**Вул. Захарава, 19, тэл.: 284-85-25.**

Выдавецкая ліцэнзія — ЛВ № 570 ад 23 кастрычніка 2002 года, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.


# МЫ — БЕЛАРУСЫ!

Як горда, як пашанотна павінны гучаць два гэтыя словы ў сэрцы кожнага з нас! **Мы — нашчадкі славутага старажытнага славянскага роду, дзеці зямлі, што, нягледзячы на ўсе навалы, войны і катастрофы, якое ўжо стагоддзе корміць-поіць нас, і мы а б а в я з а н ы памятаць пра гэта.** Абавязаны — і перад продкамі, што не далі вынішчыць ні зямлі, ні мовы сваёй, і перад нашчадкамі, што ўзжадаюць і чыстае крынічнае вады, і чыстага, спеўнага слова беларускага, бо і ім, як нам, не жыць без гэтага...

Як пацвярджае шматвяковы вопыт, **ніякія і нічые ўказы і загады не створаць нічога ні ў эканоміцы, ні ў культуры, калі грамадскасць — усе мы! — будзем абыякавымі і бяздзейснымі.** Усё — і ва ўласным дабрабыце, і ў дабрабыце нашай краіны — залежыць ад нас. Ад нашай адданасці сям'і, справе, Айчыне. Ад нашай упэўненасці ў сваёй сіле, у сваёй праваце. Ад нашай перакананасці ў сваім праве гучна, горда заявіць усяму свету: м ы — б е л а р у с ы!

Няхай жа акцыя па стварэнні кнігі "Мы — беларусы!" стане агульнанацыянальнай, агульнанароднай!

**Узгадайце род свой, азірніцеся на жыццё сваё, на ўсё, што выклікае ў душы пачуццё гонару, — і пішыце.**

Агульнымі нашымі намаганнямі кніга "Мы — беларусы!" пазначыць наша месца ў свеце і ў часе, былым і цяперашнім, стаўшы кропкай адліку для новага стагоддзя, для новага тысячагоддзя.


**Пішыце на адрас: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"; EMAIL: gazeta_lim@tut.by.**





Суполка "Літаратурны квартал" сабралася на чарговае пасяджэнне 17 красавіка. На гэты раз сябры суполкі чыталі свае новыя творы "па крузе". Паэтычная "кругавая чара", як заўсёды, не абмінула нікога, акрамя нешматлікіх празаікаў і крытыкаў. Кіраўнік суполкі паэтэса Людміла Рублеўская адзначыла гэтую несправядлівасць і прапанавала яе выправіць: наступны раз, сустрэўшыся 24 красавіка, сябры суполкі будуць гаварыць пра літаратурную крытыку, а яшчэ праз адно пасяджэнне загавораць пра "прозы дух цвярозы", тым больш ёсць ужо і прадмет абмеркавання — кніга Аксаны Бязлепкінай.

Сустракаліся ж на гэты раз Наталля Капа, Таццяна Будовіч, Павел Астравух, Віктар Іваноў, Ганна Галавіна, Ігар Клепікаў, Святлана Кананові́ч, Віка Трэнас, Аксана Бязлепкіна, Валянціна Гарністава, Наста Кудасава, Рагнед Малахоўскі, Яўген Рамяніца, Мікола Кандратаў, Дар'я Лосева, Аксана Спрынчан, Сяргей Патаранскі.

Сустрэчы кварталаўцаў адбываюцца штoчацвер а 18 гадзіне ў памяшканні рэдакцыі.

# МАЛАДЫЯ ГАЛАСЫ

На мінулым тыдні ў Валожыне прайшло свята паэзіі, якое стала вынікам традыцыйнага конкурсу "Маладыя галасы". Заснавальнікамі конкурсу з'яўляюцца: народнае літаратурна-мастацкае аб'яднанне "Рунь" раённага цэнтра культуры, аддзелы па справах моладзі, культуры і адукацыі райвыканкама, райкам БРСМ, рэдакцыя раённай газеты "Працоўная слава". Асноўная мэта конкурсу — падтрымка юных талентаў, забеспячэнне духоўнага і культурнага развіцця моладзі.

Пераможцамі ў трох намінацыях сталі: вучні Івянецкай СШ Андрэй Сасонка, Марына Козел, Яна Адамовіч, Валерыя Саўлевіч, вучаніца Валожынскай гімназіі Надзея Выгоўская, вучаніца Пяршайскай СШ Насця Садоўская, вучаніца Валожынскай СШ № 1 Вольга Наквас і вучань Валожынскай СШ № 2 Ілья Сташэўскі. Пераможцы конкурсу былі ўзнагароджаны ганаровымі граматамі і каштоўнымі падарункамі. На свяце паэзіі выступілі паэты Мікола Чарняўскі, Валянціна Гіруць-Русакевіч і Віктар Шніп, які ўручыў юным талентам невялікія бібліятэчкі выданняў Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва".

Свята праходзіла ў рамках абласнога семінара работнікаў культуры Мінскай вобласці.

**Н. К.**

# ДЫЯЛЕКТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

У выдавецтве "Вышэйшая школа" выйшла кніга Аляксандра Крывіцкага "Дыялекталогія беларускай мовы" з грыфам "Дапаможнік для студэнтаў філалагічных спецыяльнасцей вышэйшых навучальных устаноў".

А. Крывіцкі вядомы ў рэспубліцы і за яе межамі як буйны спецыяліст у галіне беларускай дыялекталогіі. Яго дапаможнік — вынік тэарэтычных даследаванняў, вялікі вопыт збіральніка асаблівасцей беларускай дыялектнай мовы, арыгінальная і ў многіх адносінах фундаментальная праца, у якой рэалізаваны прынцыпова новыя падыходы да апісання і сістэматызацыі дыялектнага матэрыялу.

У дапаможніку падаецца структурна-тэрытарыяльная групоўка гаворак у складзе сучаснай беларускай мовы, характарызуюцца асаблівасці дыялектаў, якія разглядаюцца комплексна, як адзіная складаная сістэма, раскрываюцца значэнні гаворак у станаўленні і развіцці сучаснай беларускай мовы, іх сувязь з гісторыяй мовы. Усе гэтыя пытанні праграмныя ў вучэбным курсе беларускай дыялекталогіі. Трэба адзначыць, што ў дапаможніку многія праблемы падаюцца значна шырэй, чым патрабуе праграма курса. Аднак гэты матэрыял вельмі патрэбны, ён не падаваўся ў такім аб'ёме і сістэматызацыі ў ранейшых вучэбных дапаможніках і можа шырока выкарыстоўвацца навукоўцамі, пры напісанні самастойных даследаванняў (курсавых, дыпломных прац) студэнтамі, у працэсе навучання на спецсемінарах на філалагічных факультэтах. Добра тое, што кніга А. Крывіцкага не паўтарае ранейшыя вучэбныя дапаможнікі. У ёй новы падыход да многіх дыялектных з'яў, паказ




этнагістарычнай адметнасці беларускага народа. Каштоўнасць дапаможніка заключаецца ў тым, што ён ставіць і вырашае пытанні беларускай дыялекталогіі на больш высокім навуковым узроўні.

Дыялектная мова разглядаецца як найбольш натуральная знакавая сістэма, максімальна набліжаная да выражэння тыповых асаблівасцей індывідуальнай, сацыяльнай і этнічнай свядомасці, як сродак узаемінаў, пазбаўлены мэтанакіраванай, а таму ў многім прымусовай, штучнай кадыфікацыі. Менавіта гэтай акалічнасцю, урэшце, вытлумачваецца і высокая навуковая вартасць саміх народных гаворак, і якасная адасобленасць дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі сярод шэрагу іншых лінгвістычных дысцыплін.

Значным поспехам тэарэтычных пошукаў аўтара з'яўляецца навуковае сістэмнае тлумачэнне двухпланавай (дыялектнай і занальнай) групоўкі беларускіх гаворак з далейшым апісаннем структурна-тэрытарыяльнага выгляду і варыянтнасці беларускай дыялектнай мовы. У межах прапанаванага падыходу, такім чынам, ствараюцца адпаведныя метадалагічныя асновы для сумяшчэння традыцыйнага і лінгвагеаграфічнага аспектаў у вывучэнні беларускіх народных гаворак.

Трэба адзначыць таксама, што дапаможнік з'яўляецца самадастатковай навуковай працай, у якой вычарпальна, паслядоўна і ўпарадкавана асвятляюцца ўсе пытанні, звязаныя з асаблівасцямі беларускага дыялектнага маўлення, яго структурнай арганізацыяй і тэрытарыяльным падзелам. Па сутнасці, "Дыялекталогія беларускай мовы" — гэта першы і адзіны пакуль што прыклад энцыклапедычнага асвятлення гісторыі развіцця беларускай дыялекталогіі і лінвагеаграфіі як мовазнаўчых дысцыплін. Змешчаныя ў кнізе (і крытычна асэнсаваныя аўтарам) найбагацейшыя звесткі пра навукова-даследчыцкія распрацоўкі ў адзначаных галінах лінгвістыкі, безумоўна, будуць спрыяць развіццю навуковай цікаўнасці да народнага слова, множыць прыхільнікаў уважлівага і адказнага стаўлення да ўсебаковага вывучэння дыялектнай мовы.

В. К.



***Юрасю Свірку 6 мая споўніцца 70 гадоў. Віншуючы Юрася Мікалаевіча з юбілеем, жадаем яму і надалей здароўя, творчага неспакою і натхнення.***

***Шмат гадоў адпрацаваў Ю. Свірка ў "ЛіМе", узначальваючы аддзел прозы і паэзіі. А нарадзіўся ён на Віцебшчыне, у 1959 годзе скончыў аддзяленне журналістыкі БДУ. Быў супрацоўнікам часопіса "Камуніст Беларусі", газеты "Чырвоная змена", Беларускага радыё. Друкуецца з 1952 года. Аўтар паэтычных зборнікаў "Шэпчуцца ліўні", "Вечнасць", "Баравіна", "Крэўнасць", "Аўтограф", "Люблю і веру" і інш. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова. Творчасць Ю. Свіркі вызначаюць тонкасць лірычнага перажывання і напеўнасць. Пераклаў на беларускую мову лірыку рускіх, украінскіх, літоўскіх, малдаўскіх, грузінскіх, узбекскіх і чувашскіх паэтаў.***

***На вершы Ю. Свіркі напісалі песні такія вядомыя кампазітары, як Ю. Семяняка, М. Аладаў, М. Наско і многія інш.***

Юрась СВІРКА



## ЖЫЦЦЁ

Лёгкага жыцця прасіў я ў Бога...
Іван ТХАРЖЭЎСКІ

*Так яно вялося і вядзецца:*
*Покуль не стаміўся часу бег —*
*Лёгкае жыццё, калі пяецца,*
*Цяжкае жыццё, калі ў журбе.*

*Лёгкім не было яно ніколі,*
*Як і горшым. І не ў нас адных:*
*Некага штурхае і няволіць,*
*Некага нясе на вараных.*

*Не спыніць.*
*Так па дарозе дрогкай*
*Каляснік прастуе на пад'ём.*
*Некаму жыццё здаецца лёгкім,*
*Бо хтосьці цяжкім дыхае жыццём.*

*Ды надзея на жыццё — жывая.*
*(Як бы ні было, а ўсё-ткі жыць.)*
*І нікому духу не хапае*
*Лёгкай смерці ў Бога папрасіць.*

## ВЕРШ 1984 ГОДА

*Яшчэ не бачыла яна,*
*Як зоры падаюць над лесам,*
*Як ломіцца ў акно вясна*
*І пеніцца ліловым бэзам.*

*Яшчэ не ведае, калі*
*Кусціцца ў полі рунь густая.*
*Бо першы год, як па зямлі*
*Яна няўпэўнена ступае.*

*Яшчэ не чула шум дажджу.*
*Не чула веснавога грому.*
*І не ўвайшла ў яе душу*
*Сцяжынка, што вядзе дадому.*

*Не ведае, што ёсць хлусня,*
*І ваўнічасць, і двурушша,*
*Спагада, дружба і радня,*
*І вернасць, што яднае душы.*

*Яшчэ не ведае яна,*
*Што свет і добры, і суровы.*
*Не чула, што была вайна.*
*Вайна? — Як растлумачыць слова.*

*Да маці тэпае адна.*
*Шчабеча лепетам няўмела...*
*Не ведае, што і яна*
*Жыла пад ядзерным прыцэлам.*

## БЛАКАДНАЯ БАЛАДА

*Ён ляжаў на полі бою*
*За не ўзятым Саланым.*
*Партызан. Ён сцёк крывёю.*
*Неба — купалам над ім.*

*Прыкрывала, ахінала,*
*Не змагло яго падняць.*
*І зямля траву паслала,*
*Каб мякчэй было ляжаць.*

*Хто ён — Пётра, Хведар, Вася...*
*Не пачуць яму: "Люблю!"*
*Кроў жыцця пералілася*
*Па травінках у зямлю.*

•

*Дыхнула смалістай карой*
*І смалам, і гарам, і дымам...*
*І здаўся мне лес той парой*
*Насупленым, злым, нелюдзімым.*

*Не нашы ні ўздохі, ні плач:*
*Яны і не просяць спагады.*
*Хто бег ад пажару наўскач,*
*Хто ў норах душыўся ад чаду.*

*Сатлела карэнне грыбніц.*
*І сосны счарнелі карою.*
*Спякліся паляны чарніц,*
*Зачахлі імхі з дзеразою.*

*І чорнае гала між дрэў,*
*Як цень крумкачыны апалы.*
*Драмняк падчыстую згарэў,*
*Стажкоў ядлаўцовых не стала.*

*І хоць бы дзе пташачак спеў*
*Ці пудка прабегла казуля...*
*І лес, як аглух, анямеў,*
*Нібыта ўсе гукі заснулі.*

*А хто дапаможа звярку...*
*У горле і суха, і дайка.*
*А там, на дрэнажным лажку,*
*Слязілася рэчка-канайка.*

*Пражэрны агонь не зачах.*
*Няўжо ён яшчэ ўстрапянецца?..*
*Задымлены гар у вачах,*
*Амаль не выходзячы, есца...*

*Стаю на сцяжынцы лясной,*
*былой...*
*Не забуду праз годы,*
*Як чуйна маўчыць за спіной*
*Усё чалавецтва прыроды.*

## ЛЕТНІ АДВЯЧОРАК

1

*Рака яшчэ туман не праганяе,*
*І ён з лагчыны сунецца сюды,*
*Дзе беражная навісь травяная,*
*Дзе свежае дыханне ад вады.*

*У сцішаным лагодным булькатанні*
*Прымроюцца далёкія часы:*
*І коні,*
*што драмалі на світанні,*
*Начлежнікаў прадроглых галасы.*

*Нідзе мякчэйшай*
*не знайшоў пасцелі,*
*Хаця і даваўся паблукаць.*
*Здарожаны і густа пасівелы*
*Паслаўся ён ля рэчкі начаваць.*

2

*Надвячорак лета спелага*
*Не гайдае паплаўкі.*
*Цень бяроз з другога берага*
*Не крануўся дна ракі.*

*Нехта ў лодцы варухнецца,*
*Не адчуўшы сілу рук,*
*І па ўсёй рацэ, здаецца,*
*Ад вясла сыходзіць стук.*

*Атулілі бераг лозы.*
*Цішыня плыве з палян.*
*Нават чутна, як на плёсе*
*Рассцілаецца туман.*

## АСАННА СЛОВУ

1

*Самым змрочным,*
*засмучаным днём,*
*Калі раптам спыняецца сэрца,*
*Абрываецца сувязь з жыццём,*
*А лёс слова з жыццём – застаецца.*

2

*Ажыўляла душу пачуццё,*
*Не сыходзіла ў слове паловай.*
*Услаўляецца слова жыццём,*
*І жыццё — не канчаецца ў слове.*

3

*Не кладуцца да слова вянкі,*
*Не даходзіць яно да магілы,*
*Бо заўжды — праз гады і вякі —*
*Не губляла жыццёвую сілу.*

## БЕЗ ПРЫКРАС

*"Як помню,*
*мяне не ўціскалі ў абоймы,*
*Жарынкай-хвалой не качалі радок.*
*У сціплым маўчанні*
*я думаў па-свойму:*
*Што нехта мяне*
*не заўважваў знарок.*

*Што дзесьці я ў іншых,*
*было крыху горка.*
*Не ўсім жа ў тым шэрагу*
*першым стаяць.*
*Туды адціскайся,*
*дзе травы ды ўзгоркі,*
*Туды, дзе з-за лесу людзей не відаць...*

*Ды я не крыўдую, не ныю, не плачу:*
*Амаль адбалела. І хочацца мне*
*Зазначыць: хаду*
*мне збівалі няўдачы...*
*Няхай маладзейшых такое міне.*

*Душы маёй споведзь,*
*нібы перад Богам,*
*Якая даецца адзін толькі раз.*
*А што тут нясціплага,*
*Што тут благога,*
*Калі на сябе пагля́дзець*
*без прыкрас".*



***3 мая споўніцца 50 гадоў Францу СІЎКО. Ён нарадзіўся на Віцебшчыне. Закончыў філфак БДУ. Працаваў настаўнікам спачатку ў Верхнядзвінску, потым у Віцебску. У бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП Беларусі — з 1986. Цяпер — сакратар Віцебскага аддзялення СБП. Аўтар некалькіх кніг прозы.***

***Рэдакцыя нашага штотыднёвіка зычыць юбіляру творчага плёну і шчасця.***

# ЯК ЧУЕЦЦА, ТАК І ПІШАЦЦА

**Франц СІЎКО**



Бацькі і іх равеснікі ў краму за дзесяць, у касцёл за шэсць, на кірмаш за дванаццаць вёрст хадзілі-ездзілі. Мясціны, што на Індру па дарозе, што на Ідолта, што на Друю, — вачэй не адвесці. А паветра такое, што адно б дыхаць ім з ранку да вечара. Наглядзеліся краявідаў, надыхаліся паветрам. А паўміралі амаль усе заўчасна — дусту наглытаўшыся, што цягалі з прычэпаў у шаху пад наглядам калгасных паганятых, болькі пазапускаўшы, якія б папячыць, ледзь з'явіліся, а ўсё з-за некамніцы не выпадае. І атрымалася: мясціны для жыцця найпрыдатнейшыя, а жыць няма каму.

●

Дзеда Юзафа і бабы Ганны, матчыных бацькоў, хутар на вяршыні гары месціўся. Унізе, ля ракі звілістай, — тэраска паўкругам, ад яе ўгору — пад'ём стромкі. Зноў тэраска, зноў пад'ём. Наўкола пагоркі, з вакна кухні гарадзішча прудніцкае вока цешыць. Падчас вайны то немцы, то партызаны не-не ды і зазірнуць у вабны куточак у пошуках спажывы. У хаце ж, апроч дачок, — чатыры сыны. І вокнаў, як наўмысна, у хаце чатыры. Пастануць "смелыя", як кажуць наддзвінцы, мальцы па адным перад кожным — і паспрабуй, сунься нячысцік. Так і не сунуўся ніхто ні разу.

●

У маці зубы забалелі — раптоўна і амаль усе адразу. Пайшла ў Друю да лекаркі рады даваць. А тая падлячыла адзін, а астатнія па адным праз дзень загадала паказваць. Хадзіла-хадзіла маці за 12 вёрст, чыста збілася, а канца лячэнню не бачна. Суседка дапамагла. "Дурная, торкні ўрачысе дзесятку, — кажа, — і паглядзіш, як усё зробіцца". Торкнула, і ў той жа дзень, сапраўды, пакуты скончыліся.

За год да смерці — рухавая яшчэ маці была і бадзёрая — сядзелі ўдваіх у двары бараўлянскай бальніцы, абмяркоўвалі хуткую аперацыю. Грошы раптам дастала з кішэні: "На, торкні доктару". Адмовіцца хацеў — не змог. Хоцькі-няхоцькі пайшоў "торкаць".

Я на адным краі канапы, доктар — сярэдняга ўзросту хлапец родам з-пад Сянно — на другім. Я да яго з грашыма ў жмені, ён — ад мяне. Я да яго, ён — ад мяне. "Ці не хабарам мучаецеся? — пытаецца. — Не трэба. Вось вылечым вашу матку, тады і пастаўце пляшку каньяку". Не давялося ставіць.

Маці нічога пра тую мітрэнгу на канапе не сказаў, так і адышла з перакананнем: не торкнеш — не зрушыцца.

●

К., эрудытка, цікавейшы чалавек (і дзівачка ў дадатак), у маім дзесятым "А" літаратуру выкладае. Клас цяжкі: дваццаць хлопцаў, дзесяць дзяўчат, усе з гонарам. У К. — суцэльны гармідар на ўроках. "Такія гады, — скардзіцца аднаго разу. — Прыйшоў бы ты калі на ўрок, паглядзеў". Іду. Саджуся падчас перапынку за апошнюю парту, чакаю званка. К. уваходзіць, на табурэт збоч стала ў праёме між партамі ўладкоўваецца. І ўсё споднее — да апошняе ніткі — навідавоку. У класе рогат, вядома. К. злуецца, ды ніяк не зразумее, што да чаго. "Ну, бачыў, якія?" — пытаецца пасля ўрока. "Бачыў," — адказваю.

●

Дзед з бабаю напярэдадні вайны дзяцей вырашылі пабежмаваць. Але неабходнага пры ўдзяленні сакраманту адзення — комжаў — пашыць не змаглі, не было з чаго. У штодзённым павялі ў касцёл. Ксёндз убачыў, што не так як трэба, апранутыя, і не дапусціў да абраду. Вярнуліся ні з чым дахаты.

Маці зрэдку згадвала той выпадак: без злосці, праўда, але з крыўдаю ў голасе: "Трэба ж, вайна грукалася ў дзверы, а ён такое... І з-за чаго — з-за накідкі нейкай".

Бабе Тэсьцы, швагравага бацькі сястры, — пад дзевяноста.

Мужык даўно памёр, сын адзіны ў Падмаскоўі жыве. Сядзім са старой у кухні, размаўляем. Кабета дасведчаная: радыё замежнае слухае, кніжкі чытае. Пра беларускія гурткі, што ў Якужах і Шальцінах перад вайною існавалі, апавядае, пра пастаноўку "Паўлінкі", паліцыяй забароненую. Кніжачка невялічкая на стале — у чорнай вокладцы, з паўсатлелым карашком. Разгортваю: "Голас душы" лацінкаю, 37-га года выданне. Адкуль, пытаюся. Язэп Малецкі, кажа, прэзентаваў, хочаш — вазьмі сабе на памяць. І зноў апавядае пра далёкае-перажытае — паважна, без каліва наракання на крыўды ды несправядлівасці лёсу. Пра беларускае — ні слова больш. Быццам намякае: мы адрабілі сваё, адбылі, ваша цяпер чарга, а нас больш неадкладная справа чакае.

●

Калега з кафедры на працу сумная прыйшла.

— Ці не здарылася ў вас што благое? — пытаемся.

— Ды з бацькам непярэліўкі, — адказвае. — Я ўчора толькі ў кватэру, а ён: "Дрэнь, дачка, справы!". Так ногі раптам забалелі, ледзь узышоў на пяты паверх. Няўжо старэчае пачынаецца?

— А колькі ж гадоў бацьку?

— Восемдзесят два.

Сядзім, спачуваем, супакойваем, як можам.

●

Янінка-дурніца гадоў дваццаць па вёсках ад хаты да хаты хадзіла, жабрачыла. Улетку з лялькамі ля ракі бавілася, нанач на лахах у лазні спаць клалася. Аднаго разу маркотная да маці прыйшла:

— Дрэнь людзі ў Мезарчы.

— Чаму?

—А во хлеб, што заўчора назбірала, паклала на палок, дык на дол штурнулі.

Назаўтра ў вёсцы адно і гаворкі было — пра той хлеб. І праз тры гады, і праз пяць усё згадвалі пры нагодзе:

— От дзівіцца з людзей, калі хлеб і то "былі штурнуўшы".

І па дзесь дзень, бы ад самага страшнага святатацтва дыстанцуючыся, у трэцяй асобе невядомага таго зламысніка мянуюць.

●

Пачатак шасцідзесятых. Спецыялістаў дыпламаваных на вёсцы — кот наплакаў. Ставяць брыгадзірам па чарзе мясцовых мужыкоў. Першаму дзядзьку Стасю "карона" выпадае. Ходзіць па хатах уранні, на працу "загадвае". Цётка Марта Цярэшчыха, суседка, незадаволена: "Во, робіць ім за нішто! Не пайду!".

Праз год здымаюць Стася, Цярэшку, мужыка Мартусінага, Мечыка, ставяць. І цётка: "О, надабя робіць! Без работы — халера яе..."

●

Знаёмы ксёндз-францішканін распавёў: "Еду на аўто — даішнік спыняе: "Вашы дакументы!". Падае паперыну — на лаціне, з пячаткаю Курыі Францішканскай. Чытае быццам: "Ага... так... так... зразумела...". "Дачытвае" да пячаткі: "О, дык гэта жонкі вашай машына?"

●

Друйскім цягніком з родных мясцін у Віцебск вяртаюся. Неўзабаве горад, час бялізну здаваць. Ссоўваю ўсё ў мяшэчак, нясу правадніцы.

— Кладзіце сюды! — дзеўка кажа.

Кладу, іду назад у купэ. Праз пяць хвілін убягае:

— Наўлачкі няма! Плаціце тысячу пяцьсот!

— Як няма? Во ў прысутнасці пасажыраў складваў...

— Нічога не ведаю. Паглядзела — няма. Паклалі і пайшлі...

— Вы ж загадалі пакласці... Не, каб пры мне і паглядзець.

— Во які вы! Ладна, сваю з дому прынясу, аддам за вас.

Туман загадкаванага здарэння кабета з суседняга купэ развейвае:

— У Полацку нехта сцібрыў, выходзячы. Я чула, як з напарніцай ехалі ды бедавалі пасля. А з вас узяць вырашылі, найначай...

Выходзячы з вагона, прыпыняюся, торкаю ў руку дзяўчыне тысячу пяцьсот.

— Не ўцямлю, як гэта здарылася, — кажу. Вазьміце вось грошы.

— Не надо, мужчина! — успыхвае. — Пусть это останется на вашей совести.

●

У летні лагер працы і адпачынку выхавацелем прызначылі. Ад'язджаючы, рэбусаў розных, красвордаў набраў — трэба ж неяк давер моладзі заваёўваць. Сядзім на ганку школьнага інтэрната, разгадваем, хто ўкраў — Джэк, Джон ці Джэймс.

— Джон! — крычаць, умову ледзь даслухаўшы. І рогат такі — ажно ў вушах закладвае.

— Не, не Джон, — кажу і адыходжу. — Падумайце як след.

Праз паўгадзіны вяртаюся — каб з месца хто скрануўся, сядзяць бы прыклееныя.

— Ну, хто ж усё-ткі ўкраў?

— А вы як думаеце?

— Толькі не Джон!

Зноў рогат — гэткі ж дружны, толькі ўдвая гучнейшы.

Увечары калегу-выхавацелю распавядаю, як рагаталі немаведама чаго.

— А што дзіўнага! — пацісnуў плячыма. — Цябе два гады ўжо "Джонам" завуць.

●

Суседка на пахаванне замужняй дачкі ў Краславу ездзіла. Вярнулася, распавядае, як было ўсё: "Кветак гэтулькі — Езус! А людчыкаў — на панадворку ледзь тоўпіліся. Але што ж тое ўсё — блага было Крысечцы ў свякровы... Памерла, дык хоць мучыцца болей не будзець". І — ні слязіны, ні ўздыху, ні ценю шкадобы ў вачах.

●

Бабарыкі — паблізу Дзвіны вёска, настаўніка Антона Феліксавіча, што ў пачатковай школе нас вучыў, малая радзіма. Сам ён гімназію ў Друі скончыў, цікавы, дасведчаны быў чалавек. Сяброў-аднакашнікаў ягоных па замежжы ў ліхалецце параскідала, а ён амаль адзіны з усіх настаўнікаў на вёсцы застаўся. Распіўся спакваля на вясковым бязлюддзі, але пад старасць узяўся за розум, кінуў захапляцца зеллем. Што нібыта манаграфію пра свае Бабарыкі складае, я з ліста да яго Яўгена Аніські даведаўся. Спытаў, ці праўда. "Меў намер калісьці, — адказаў, — ды так і не дайшлі рукі".

Дадзена было Богам, а не скарыстаў чалавек — што можа быць гарчэй?

●

З вяцкімі кабетамі пра капліцу гамонім. Лексіка памежных тубылак — сакавітая, гусценька перасыпаная словамі паўночна-заходняга лакальнага маўлення: недзека, вунака, ядзём, смелны, якочаць — дух займае. Развітваемся цёпла, як родныя — калі яшчэ давядзецца спаткацца.

— Да пабачэння, — кажу, адыходзячы.

— Ага, давідзэнька, — адказваюць. — Пшыежджайце яшчэ, рады бэньдземы.

Быццам былі — і не стала.

●

Дзядзька Тадзік, бацькаў брат, рыжанін у першым калене, век свой на радзіму наракаў: маўляў, дарогі кепскія, беднавата, выгодаў аніякіх. Апошні раз незадоўга да ягонай смерці ў Рызе ля цягніка размаўлялі. Маркотны, разгублены быў. І ці дзіва: сорак гадоў адрабіў на фабрыцы, дзеці латышы напалову, а грамадзянства — няма. Твар завінуў каўняром, бы ад ветру, усхліпнуў: "Не даў Бог розуму — паперся ў гэтую Рыгу. Дома вунь як добра было б".

●

У ваколіцы нашай дзвюх вясковых прыкметаў, так бы мовіць, не было спрадвеку — студняў і козаў. Ваду з калодзежа першы раз на матчынай і сваёй малой радзіме, у Вяце, адкуль бацькі перавезлі немаўлём у мезарэцкія пакоі, паспытаў. Казу ў дзесяцігадовым узросце праз вакно пабачыў. Быў ранак зімовы, светлы пасля доўгай завеі; сад у снезе патанаў. Невядома адкуль каза дзікая паўз сумёт вымкнулася — і да яблыні. Зграбная, бялюткая — вачэй не адвесці. Кару грызнула раз-другі і знікла прывідам, бы растаяла. Потым снілася часта, непапушчы белы бык няшчаснаму Фалалею.

●

Сядзім у кухні, дзядзькі 50-гадовыя, піцво цэдзім у знак прымірэння. Раптам пра кепскае тое зноў: "Памятаеш? Аддасца табе!" Сумеўся ажно: што адказаць на такое? Цяжка з людзьмі, якія не маюць звычкі зазіраць у пашпарт.

●

У цягніку Віцебск-Мінск пасадзілі ў агульны вагон, плату ўзяўшы як за плацкартны. З паўдзесятка чалавек абурыліся, астатнім — хоць бы што. Больш таго, тым, хто абурыўся, пачалі выказваць незадавальненне.

Хлопец, ці не студэнт, не вытрымаў: "Звыкліся, ці што, з паўсюдным падманам?" І павольна, па складах на ўвесь вагон дадаў: "Па-мяр-коўныя!"

●

Перш чым не любіць іншых, варта навучыцца не любіць сябе. Нелюбоў да сябе спрыяе разуменню добрага і кепскага ў іншых, нелюбоў да іншых — толькі квеліць ды раз'ядае душу.

●

У дзяцінстве ды юнацтве шукаем (і знаходзім) найперш падабенства да таго з бацькоў, да якога маем большую сардэчную прыхільнасць. З гадамі, узброіўшыся належным жыццёвым досведам, азіраемся на мінулае і разумеем, што памыліліся.

●

Спявачка маладая пра гастролі ў Польшчы распавядае:

— Так здорово было, так встречали всюду! Одно не понравилось: они же все там по-польски разговаривают, представляете.

●

У вёсцы Жучыха, баба сямідзесяцігадовая, жыла. Ляжыш у ложку, сон апошні ранішні даглядаеш, а ўвушшу — ж-ж-ж-ж-... Вочы расплюўшчыш: яна, Жукоўская! Сядзіць на зэдлі збоч стала і, вуха з-пад хусткі наставіўшы, нібыта каб маці, што ля печы завіхаецца, слухаць, муж даланёй ловіць. Цапне — і ў пеліну, а там ужо каля дзесятка небаракаў у агоніі курчыцца. І ўсё пра гароды чужыя, пра статак, як заведзеная, чаўпе. У самой жа на сотках — лебяда ды асота.

Так з крытыкай у нас часам. Вылезе немаведама адкуль во гэткая Жучыха і давай "мух лавіць". Наўкола жыццё віруе, людзі справаю займаюцца, а яна ўсё — ж-ж-ж-ж...

ВЫСТАВЫ

# НАШЫ «ПЕРАСОЎНІКІ»

**Падзабытае слова "перасоўнікі", здаецца, адраджаецца нанова — разам з творчымі работамі жанчын-мастакоў. Раней гэтыя творы экспанаваліся на традыцыйнай вясновай нацыянальнай выставе ў Мінску, пазнаёміцца з імі маюць магчымасць жыхары Дзяржынска. Зараз выстава адбываецца ў мясцовым гісторыка-краязнаўчым музеі. На выставе — жывапіс, графіка, габелен, бацік. Здаецца, што работы прасякнутыя святлом, радасцю і надзеяй.**

**"Цудоўна, што нашым людзям дадзена магчымасць пабачыць усё гэта" — гаварылі на вернісажы і дырэктар музея В. Чарненка, і загадчык аддзела культуры Дзяржынскага райвыканкама А. Чаган. Гэтая акцыя, безумоўна, карысная ўсім, асабліва. Бо вядома, што ў так званай глыбінцы культурныя падзеі накшталт гэтага здараюцца не часта.**

**Ініцыятары "перасоўнай" выставы заслужаны дзеяч мастацтва Беларусі**



**Нэла Шчасная і загадчык аддзела Беларускага фонду міру Любоў Ярмолава. Уласна кажучы, гэтая ідэя — лагічны працяг справы, распачатай больш як 20 гадоў таму.**

**"Я ўпэўненая, што гэта патрэбна не толькі мастакам, для якіх вельмі важна, каб іх ведалі не толькі ў сталіцы, — гаворыць Н. Шчасная, — Гледачы атрымалі дадатковую магчымасць далучыцца да свету мастацтва ў сябе дома, бо далёка не кожны мае магчымасць пае-**



**хаць на такую выставу ў Мінск. Увогуле ў нашым жыцці адчуваецца недахоп эстэтычнага выхавання. Магчыма ў гэтай прычыны вакол нас столькі агрэсіі."**

**Зразумела, арганізацыя такой выставы звязана з дадатковым клопатамі. Яе немагчыма было б здзейсніць без зацікаўленасці "прымаючага боку" і без разумення, што такія імпрэзы робяць Дзяржынск культурным цэнтрам.**

**У горадзе ёсць музей. Ёсць мастацкая школа, выхаванцы якой часта атрымліваюць узнагароды на конкурсах якога заўгодна рангу — ад абласнога да міжнароднага. Менавіта яны былі першымі наведвальнікамі выставы.**

**У Дзяржынску ўсё склалася найлепшым чынам. Эстэтычная ідэя, прыхільна сустрэтая гледачамі, спараджае пачуццё любові, цеплыні і жаданне прыгожа абуладзіць сваё жыццё.**

**Ларыса КОКТЫШ**

**ФОТА Яўгена КОКТЫША**

ЭСТРАДА

***Маладыя беларускія выканаўцы эстраднай песні ўдзельнічалі ў конкурсе, фінал якога прайшоў нядаўна ў Мінску.***

# СВАЁ: СЛУХАЙ І ЛЮБІ!

Лёгка сказаць — "любі сваё": а як палюбіць тое, нібыта й сваё, чаго не ведаеш? Каб любіць – ведай, каб ведаць — слухай, каб слухаць...

Знаёмся, выбірай ды слухай! Толькі дзе той выбар?

Многія ўжо ці то здаволіліся, ці то сцярпеліся з гэткай "безальтэрнатыўнай любоўю". Бо год за годам да нас у куміры-спадарожнікі набіваюцца — праз тэлешоу і рэкламу, праз FM-хвалі, праз анонсы-расцяжкі над галоўным сталічным праспектам, праз кідкія каляровыя плакаты ў білетных шапіках, на гарадскіх вуліцах і ў пераходах пад імі, — набіваюцца, пазбаўляючы мажлівасці выбару, госці залётныя. Робіць свой вялікі бізнес у нашай маленькай краіне, забіраючы з сабою тысячы ўмоўных паланёных сэрцаў і канкрэтных грашовых адзінак.

Пытанне, кшталту: "З якой валютнай крыніцы сілкуюцца гастралёры ад суседскага шоу-бізнесу?" можна лічыць некарэктным. Пытанне, кшталту: "Калі на родным



небасхіле свае эстрадныя зоркі не зіхацяць у промнях папулярнасці — няўжо гэта камусьці трэба?" можна лічыць рытарычным. Але ці не падобныя развагі спарадзілі ўрэшце ідэю новай імпрэзы, якой наканавана падтрымаць беларускую моладзь, што імкнецца выявіць здольнасці ў т.зв. масавых жанрах музычнай творчасці?

Выйшаў загад міністра культуры Беларусі "Аб правядзенні Рэспубліканскага фестывалю-конкурсу маладзёжнага эстраднага мастацтва". У межах першай такой імпрэзы было наладжана спаборніцтва маладых айчынных выканаўцаў эстраднай песні. Першы тур, як мы раней паведамлялі, пачаўся яшчэ летась, у абласцях. З амаль трохсот яго ўдзельнікаў засталося каля паўсотні фіналістаў. Яны і выступалі 7—8 красавіка ва ўтульным рэпетыторыі Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі, размешчаным у адным з малавядомых куткоў цэнтра сталіцы — у Чырваназорным завулку.

За вокнамі тады лютавала завіруха, да непазнавальнасці зміняючы "тылы" Залатой Горкі, абрысы дахаў. А ў залу прыйшло лета — урачыстымі акцэнтамі ў сціплай аздобе сцэнічнай пляцоўкі; стракатасцю і кантрастамі ў адзенні канкурсантаў; усмешкай "сонечнай" Ірыны Смольскай, вядучай праграм; гарачынёю песенных вобразаў да закулісных эмоцый. Лунала і прадчуванне маладзечанскага лета: новыя лаўрэаты і дыпламанты маюць шанц выступіць на сёлетнім Нацыянальным фестывалі беларускай паэзіі ды песні.



Кожны выконваў па два творы, сярод якіх абавязкова гучала песня беларуская. Спявалі пад фанаграму-"мінусоўку". Сяргей Багданаў, гукарэжысёр і музыкант, класны профі, які працуе ў Дзяржаўным канцэртным, забяспечыў аптымальны гукавы баланс, камфортны і для выканаўцаў, і для тых, хто іх слухаў. А слухаў, дарэчы, — хто? Канкурэнты. Нешматлікія "балельшчыкі", журналісты ды крытыкі. Журы. (Яно складалася з такіх знаных асоб, як Тамара Раеўская, Уладзімір Карызна, Эдуард Зарыцкі, Валерый Іваноў, Уладзімір Ткачэнка. Узначальваў суполку суддзяў маэстра Міхал Фінберг.)



Была б у зале шырокая публіка — пэўна, не засмуцілася б. Хаця, канечне, фанаграма — не тое, што жывы інструментальны акампанемент: абмяжоўвае "творчае дыханне" саліста, стамляе слухача. Невыпадкова ж многія спаборнікі намагаліся вылучыцца ці то ўборам, ці то прычоскай, ці то сцэнічнай пластыкай. Канкурсант з Верхнядзвінска выступаў пры падтрымцы трыо бэк-вакалістаў. Прадстаўніца Слоніма свае спевы аздобіла падтанцоўкамі зграбных "купалак". Была й такая адчайная дзяўчынка, што ледзьве не вылузвалася са сваіх эластычных апранах — не раўнуючы, клубная "акрабатка ля шоста".

Наогул жа... Няпраўда! Няпраўда, што ў нашай эстрады — безгалосая будучыня. За два дні праслухоўвання, дзе ўдзельнічалі прадстаўнікі Докшыцаў ды Віцебска, Вілейкі ды Гомеля, Мазыра ды Оршы, Магілёва ды Баранавічаў, Гарадзеншчыны ды сталічнай вобласці — і г.д., і г.д., можна было пераканацца: ёсць у нас і спеўныя галасы, і пэўныя, але пакуль яшчэ кволыя традыцыі эстраднай вакальнай школы. Школы, вядома, бракуе. Бракуе і такіх песень беларускіх, што можна было б выбіраць узамен эфектнага, папулярнага і складанага для выканання рэпертуару Селін Дзіён, Мараі Кэры ці Лоры Фабіян, разлічанага на вялікі аб'ём голасу і валоданне сучаснай вакальнай тэхнікай. І ўсё ж, ні другаснасць рэпертуару, ні часам эпігонства ў манеры выканання, набор інтанацый "пад кагосьці" не перашкодзілі дадатным уражанням ад жывых іскрынак спеўнага таленту. Музычным дарам і шчырасцю іскрыліся выступленні Максіма Сапацькова (Гомель), Ганны Мушак (Магілёў), Святланы Шкадровіч (Бабруйск), Аляксандра Звяровіча (Гарадзеншчына), Алесі Кульшы (Гродна), мінчанаў Вольгі Краўчуковіч, Весты Каменевай, Ксені Віблай, Наталлі Кузьміной, Валянціна Кірыленкі...

Журы падсумавала свае ўражанні. Вось вынікі: лаўрэатамі названыя мінчук Уладзімір Аўчароў — І месца; Руслан Аляхно (таксама Мінск) ды гамяльчанін Максім Сапацькоў — ІІ месца; Аляксандр Звяровіч з Гарадзеншчыны ды мужчынская вакальная група "Рэй" з Мінска — ІІІ месца. Вызначана 7 дыпламантаў: мінчукі Я. Чалышаў, Н. Кузьміна, В. Краўчуковіч, магіляўчанка Г. Мушак, віцяблянка Н. Батура, С. Калоша ды А. Кульша з Гродна. Шэраг канкурсантаў адзначаны дыпломамі Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі.

Хто паедзе ў Маладзечна? Мастацкае кіраўніцтва Нацыянальнага фэсту беларускай паэзіі ды песні адкажа на гэтае пытанне крыху пазней, вызначыўшы сярод прызёраў І Рэспубліканскага конкурсу будучых удзельнікаў фестывальных канцэртаў.

Падтрымаць бы іх своечасова, дапамагчы разгарэцца-заззяць іскрынкам таленту. Гэта — наша, сваё. Вартае таго, каб ведалі, песцілі ды любілі.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

**ФОТА А. КУШНЕРА і Г. ЖЫНКОВА**

УРАЖАННЕ

# ЦАЦКІ ДЛЯ НЕМЦАЎ

Надвячорак. Алея магутных ліп, якім не менш за два з паловай стагоддзя. Між тонкіх галінак удалечы бачны сядзібны дом, прыгожы, як малюнак у дзіцячай кніжцы. Здаецца, што ў ім можна ўбачыць нешта казачнае і надзвычайнае. І сапраўды за дзвярыма з кавнымі рашоткамі бачны пакой з незвычайнай мэбляй і вытачанымі драўлянымі рамамі, дзе адклаўшы ўбок электралобзік, мяне сустракае сябра Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Ігар Пятровіч Коршун. Адразу звяртаю ўвагу на годную адмысловую працу майстра — уражваюць нестандартныя багатыя і прыгожыя драўляныя цацкі, якія, здаецца, самі просяцца ў рукі. У іх можна ўбачыць і шматвекавыя традыцыі беларускага разьбярства і асабісты почырк аўтара, цеплыню яго рук. З другога боку нельга не заўважыць і сучасныя матывы. Цацкі разбіраюцца на асобныя дэталі, з якіх дзіця можа скласці выяву пэўнай жывёлы. Такая дзейнасць развівае маторыку рук і аб'ёмнае мысленне, абуджае творчую фантазію, спрыяе эстэтычнаму выхаванню.

Цацкі вырабляюцца з розных парод дрэва, што дае магчымасць перадаваць дзецям першасныя біялагічныя і тэхналагічныя веды. Гэтыя вырабы выдатна прыстасаваны для выкарыстання ў выхавачай тэхналогіі Марыі Мантэсоры, што была распрацавана ў першай палове XX стагоддзя і даказала сваю эфектыўнасць шырокім выкарыстаннем у многіх краінах на працягу дзесяцігоддзяў. Колькасць узораў практычных матэрыялаў для гэтай методыкі, напрыклад, у Галандыі перавысіла дзесяць тысяч адзінак. Аднак на Захадзе ўсе цацкі занадта правільныя і акуратныя, што надакучае. Ці, напрыклад, кітайцы тых жа слонікаў, якія ўстаўляюцца адзін у адзін, робяць аднолькавымі. І выпільваюцца яны лазерам з фанеры. Ігар Пятровіч, наадварот, імкнецца рабіць цацкі рознымі, каб кожнае дзіця магло мець у сябе унікальную рэч, весці з майстрам своеасаблівую размову. Бацькам прапануецца і інструкцыя па выкарыстанні такой рэчы: яе можна складваць як мазаіку; размалёўваць альбо клеіць і павесіць як пано.

Цацкамі беларускага майстра ўжо зацікавіліся немцы. Ім спадабалася прапанова Ігара Коршуна рабіць прыродныя кампазіцыі з адпаведных парод — дуб з дубу, елку з елкі. Гэта паспрыяе таму, што ўжо ў малым узросце дзеці, якім набудуць такую цацку, будуць дакладна ведаць, якое дрэва побач з іх домам.

Ці не варта і нам старанна сабраць нацыянальныя набыткі практычных матэрыялаў для выхавання, у якіх сёння адчуваецца востры недахоп, і паспрыяць укараненню іх у адукацыйную практыку?

**Марына ПРАЦКО**

*НА ЗДЫМКУ: мастак Ігар КОРЗУН*



***Гэты год багаты на кінафестывалі. У верасні распачнецца IV Нацыянальны фестываль беларускіх фільмаў, у конкурснай праграме якога звычайна бяруць удзел лепшыя ігравыя, дакументальныя, анімацыйныя фільмы, зробленыя за два апошнія гады. Нядаўна ў кіназалах Беларускага саюза кінематаграфістаў, студыі "Беларусьфільм" прайшлі адборачныя паказы дакументальных карцін "Белвідэацэнтра", студыі "Летапіс" ды анімацыйных стужак (за апошнія два гады іх было знята ўсяго пяць). Аглядальніку "ЛіМа" пашчасціла трапіць на гэтыя адборачныя "туры". На жаль, паглядзела не ўсе фільмы, але пэўныя ўражанні засталіся. І ў сваім першым аглядзе мушу падзяліцца тымі, што ўзніклі падчас прагляду дакументальнай відэапрадукцыі "Белвідэацэнтра".***



# АБЛІЧЧЫ МАЙСТРОЎ

На суд камісіі, у якую ўвайшлі знаныя беларускія кінакрытыкі, рэжысёры, было прадстаўлена звыш сарака дакументальных фільмаў. Адсутнасць кінатвораў вострых на сацыяльную праблематыку, злабадзённых публіцыстычных фільмаў (на экране — ніводнага беларускага палітыка "без гальштука"), цікавых мантажных стужак (рэдкая кінахроніка ваенных часоў выкарыстана ў адметным фільме Ф. Кучара "Апошнія сведкі") прыкрываюць ілюстратыўныя, азнаямляльныя карціны пра гісторыю, прыроду, гарады Беларусі ("Беларусь на крыжы вякоў. Фільм другі" В. Шавялевіча, "Музей Якуба Коласа" М. Князева) ці сакрэты тутэйшай кухні ("Беларуская кухня. Стравы каляднага посту" У. Каралёва). Несумненна, улюбёны жанр сённяшніх дакументалістаў — гэта фільм-партрэт. На Беларусі настолькі многа таленавітых, самабытных людзей, што распавесці пра іх з экрана хочацца падрабязна, з экскурсам у гісторыю жыцця і творчасці чалавека, бо пад пільнае вока камеры трапляюць у асноўным знаныя майстры. Доўгімі па метражы (каля і звыш гадзіны), але выбітнымі атрымаліся стужкі "Майстар"(2001г.) пра кампазітара Я. Глебава і "Мая васьмідзесятая восень"(2002г.), прысвечаная хормайстру В. Роўду.

Відавочна, што стваральнікам стужкі "Майстар" (рэжысёрам М. Жданоўскаму, Ю. Гарулёву, Т. Гетман і іншым) было няпроста раскрыць характар Глебава, які "быў у палеміцы з асяродкам". Тое, што вядомы кампазітар быў чалавекам, так бы мовіць, складаным, пераважна з-за таго, што гаварыў людзям праўду ў вочы, адкінуўшы ўсялякія хітрыкі дыпламатыі, сведчаць першыя кадры стужкі. Нападпітку, з паўзмроку з расшпіленымі гузікамі кашулі, у хатняга пакоя (па словах жонкі, кампазітар быў вельмі хатнім чалавекам, слаба арыентаваўся ў горадзе) Глебаў адкрыта насміхаецца над тымі, хто прыйшоў здымаць пра яго фільм, іранізуе над прапанаваным сцэнарыем. Ён не пазіруе перад камерай, яго не хвалюе, як ён будзе выглядаць на экране, таму кінапартрэт атрымаўся такім рэалістычным, праўдзівым.

Стужка названа "Майстар" невыпадкова — адной з апошніх работ Я.Глебава была опера "Майстар і Маргарыта" паводле рамана М. Булгакава. Стваральнікі фільма бачылі ў Глебаве шматпакутнага Майстра. Але першыя кадры стужкі адкрываюць, што кампазітар хутчэй належаў да воландаўскага атачэння, быў ці не самім Воландам. Як і многія фільмы-партрэты "Майстар" складаецца з маналогаў героя ("Якая розніца паміж бюракратам і мастаком? Бюракрат імкнецца захаваць тое, што ёсць. Мастак жа мусіць разбураць, тое, што ёсць"), цікавай хронікі побыту кампазітара, успамінаў пра майстра (людзі, якія сябравалі з Глебавым, гавораць пра яго няпросты характар, і яго дабрыню). "Гэты чалавек — нейкая дастаеўшчына", — расказваў мне журналіст, які быў знаёмы з Глебавым. І гэтая "дастаеўшчына" кампазітара робіць фільм пра яго надзвычай запамінальным канааповедам, пасля прагляду якога адчуваеш страх і боль (кампазітар заўчасна пайшоў з жыцця), захапленне перад смеласцю героя жыць, як дыхаеш, нічога не баючыся...

Здаецца, рэжысёру В. Скварцовай пашчасціла з героем — вядомы хормайстар В. Роўда сам імкнецца ў кадр. На экране прафесар, кіраўнік Акадэмічнага хору Дзяржтэлерадыёкампаніі, нязменны старшыня журы фестывалю "Магутны Божа", глядзіцца як неардынарная асоба (паліглот, па першай адукацыі — урач), якую стваральнікі фільма мусяць прадстаўляць ці то як сусальнага святога з лубка (бацька хормайстра быў праваслаўным святаром, у гонар якога Роўда цяпер будуе храм), ці то як блазна-блажэнага. "Мая васьмідзесятая восень" — гэта фільм-маналог, свой партрэт на экране малюе сам Роўда, які вяртаецца ў мясціны дзяцінства, маладосці (здымкі праходзілі ў Літве), разважае пра жыццё, людзей (з экрана гучаць словы пра любоў, міласэрнасць да блізкага). Толькі аднойчы хормайстар згадае, што яго складаны, выбухны характар дастаўся яму ад бацькі, і гэтая фраза адразу дадасць трапны штрых да шматлікіх буйных планаў Роўды...



Цудоўны фільм-партрэт атрымаўся ў рэжысёра У. Арлова. Яго стужка "Як пайду я дарогаю"(2001г.) прысвечана прафесару, кіраўніку Акадэмічнага народнага хору імя Цітовіча М. Дрынеўскаму. Фальклорны, казачны персанаж музыкі-чараўніка, які здольны сваёй музыкай зачараваць і людзей, і звяроў, і нячыстую сілу, вобраз музыкі-вандроўніка, які ў дарозе шукае сваё шчасце, сэнс жыцця — добра стасуецца з асобай Дрынеўскага, якому (былому вясковаму хлопцу, палешуку) падуладныя непаўторныя чалавечыя галасы. Радок з песні "Як пайду я дарогаю" ў выкананні народнага хору імя Цітовіча лейтматывам праходзіць праз увесь фільм, злучаючы ў адну цэласную кампазіцыю старонкі з жыцця і творчасці хормайстра, і здаецца выдыхнутым напевам самой матулі-зямлі.

На Беларусі шмат неардынарных майстроў. Дакументальная партрэтная галерэя "Белвідэацэнтра" за гэтыя два гады папоўнілася абліччамі вядомых кампазітараў Д. Смольскага ("Адкрыцці Д. Смольскага", 2001г.), В. Капыцькі ("Радуйся!", рэжысёр Г. Адамовіч, 2001 г.), музыканта У. Паліводы (стужка "Роднай песні ваявода: Палівода" рэж. Б. Бахціярава складаецца з успамінаў пра вядомага клавішніка-аранжыроўшчыка "Песняроў", якога называлі Д'артаньянам, "еўрапейскім" беларусам), спявачкі І. Дарафеевай ("Дарогі Ірыны Дарафеевай", рэж. В. Тамашэўская, 2002 г.), славутых тэатральных дзеячаў Расіі і Беларусі М. Губенкі ("Адзінота ў натоўпе", рэж. Г. Бажанава, 2001г.), Л. Давідовіч ("Лілія Давідовіч", 2001г.), Ф. Варанецкага ("Нясумны сад Фамы Варанецкага", рэж. С. Кацьер, 2001г.) Г. Давыдзькі ("У палоне сваіх роляў", рэж. А. Бутор, 2001г.), М. Яроменкі-старэйшага ("М.М. Яроменка-старэйшы. Пасляслоўе", рэж. М. Дудзін, 2001г.), кінарэжысёраў В. Чацверыкова ("Паспець да начы", рэж. Ю.Марухін, 2000г.), Б.Сцяпанава ("Кінарэжысёр Барыс Сцяпанаў", рэж. Г. Адамовіч, 2002г.), мастакоў Наталлі і Георгія Паплаўскіх ("Наталля і Георгій", рэж. В. Скварцова, 2001г.), Я. Чамадурава ("Дагараючы вечар чалавечага жыцця", рэж. У. Траццякоў, 2001г.), В. Сумарава ("Сумаравы. Адкрыцці душы", рэж. В. Цяслюк, 2001г.), Н. Салейка ("Пра Антосю і Крысю", рэж. Р. Грыцкова, 2001г.), В. Альшэўскага ("Ілюзія рэальнасці. Ураджанні раўнавагі", рэж. С. Агеенка, 2002г.). Дарэчы, дакументальны фільм С. Агеенкі быў бадай адзіным у праграме эксперыментальным кінатворам. Расказваючы пра неардынарнага мастака В. Альшэўскага, рэжысёр уводзіць гледача ў свет яго вобразаў, якія ажываючы, сыходзяць з карцін (дакументальнае адлюстраванне стасуецца разам з цікавымі пастановачнымі здымкамі). Вельмі прыгожы, маляўнічы відэарад трапна дапаўняецца філасофскімі роздумамі В. Альшэўскага пра творчасць і жыццё, споведдзю мастака, які бярэцца за новую карціну...

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

*НА ЗДЫМКАХ: майстры Я. Глебаў, В. Роўда, М. Дрынеўскі*

**ФОТА А. МАЦЮША, В. СТРАЛКОЎСКАГА**





# ХОЦЬ ЗАДАТКАЎ НЕ БЫЛО

**Хто ў школьным узросце не займаўся паэтычнай творчасцю! Не выключэннем была і Галіна Бельская з Валожыншчыны. А потым... Потым усё забылася.**

**Закончыўшы ў 1971 годзе Мінскі педагагічны інстытут імя М. Горкага, прыехала ў Вілейскі раён да мужа Мікалая Кутаса, які ўжо тры гады выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Суднікоўскай васьмігадовай школе. Хлопец з паэтычнай Стаўбцоўшчыны спрабаваў свае сілы ў паэзіі яшчэ студэнтам гэтага ж інстытута, друкаваўся ў перыядычных выданнях. У 1999 годзе выдаў зборнік вершаў "Перазвоны".**

**Чамусьці менавіта ў тым жа, 1999-м годзе, паэтычная творчасць прачнулася і ў Галіны Кутас — старшыні Ільянскага сельсавета. (Дарэчы, на гэтай пасадзе яна працуе ўжо 15 гадоў; у школе выкладала біялогію і хімію.)**

**— Сама не ведаю, як гэта атрымалася, — расказвае Галіна. — Іду неяк па Ілы. Думаю пра 400-годдзе Вілейкі, якое вось-вось будзе адзначацца. Вершаваныя радкі самі сабой у галаву палезлі. І мелодыя да іх. Зразумела, што на нешта цікавае напаролася, чаго і не шукала. Каб не страціць знойдзенае, пабегла ў мясцовую музычную школу. Выкладчыца Марына Шэрая тут жа маю песню паклала на ноты.**

**Хутка аўтарскую песню Галіны Кутас "Горад мой" заспявалі ва ўсім раёне:**

***Родным словам і песняй сагрэты***
***І музыкаў сваіх, і паэтаў,***
***Горад мой, ты ў шуме вятроў***
***І павагу адчуў, і любоў.***

**Аднак пераважная большасць яе твораў – пра каханне. Яно і зразумела: каханню, як казаў паэт, усе ўзросты пакорныя. Тым больш, калі душа насуперак гадам маладая, часу непадуладная. І ці скончыцца калі каханне?**

**Калі лірычны герой адчувае расчараванне, тады паэтка піша:**

***Жыццё скупілася на ласку,***
***І трэба ж ведаць, Божа мой:***
***Я прыняла было за казку***
***Хвіліны шчырасці з табой.***
**.........................................**
***А нехта, ціхі і рахманы***
***Баяўся нават падысці.***
***Я ж пакахала Дон-Жуана...***
***Здаецца, выйсце не знайсці...***
**"Так хацелася верыць"**

**Лірызм навявае і з вершаў-песень "Не пытайся", "Буду я цябе чакаць", "Мой сон", "Не бывае шчасце вечным", "Каханнем не назваць", "Будзь маёй марай", "Маэстра".**

**Усё часцей песні Г. Кутас сталі гучаць з самадзейнай сцэны. Але яна і М. Шэрая прыйшлі да высновы, што калі б быў прафесійны аранжыроўшчык, то можна было б стварыць эстрадную студыю аўтарскай песні. Так выйшлі на кампазітара Вячаслава Шарапава. Той ухваліў задуму і пачаў супрацоўнічаць з калектывам. Студыю аўтарскай песні "Імпэт" узначальвае Галіна Кутас, мастацкім кіраўніком з'яўляецца Марына Шэрая. Аранжыроўшчык, вядома ж, — Вячаслаў Шарапаў. Салісты — старшакласнікі Ільянскай СШ Давід і Анфіса Дуровічы, настаўніца гэтай жа школы Святлана Міхалькевіч і тая ж Марына Шэрая. Чытальніца-загадчыца Абадоўскага сельскага клуба Людміла Тонкавіч. Ёсць свой гукарэжысёр — шафёр сельвыканкама Аляксандр Каралёў.**

**Сёлета ў Ілы пабывалі работнікі Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці, і студыйцы вытрымалі экзамен на прысваенне самадзейнаму калектыву звання народнага.**

**Мусіць, варта дадаць, што на паэтычную хвалю трапіў і адзіны ў Кутасаў сын Генрых, які працуе старшынёй Чысцінскага пасялковага савета дэпутатаў Маладзечанскага раёна. Яго вершы друкаваліся ў "Маладосці".**

**Барыс МАНЦЭВІЧ, член Беларускага СЖ**

# З ЦЕМРЫ — СВЯТЛО

Шмат хто умее маляваць, але мала хто валодае стылем. Стыль — гэта заўжды нешта большае чым удала спалучаныя ноты, словы альбо лініі і фарбы, якія вандруюць з твора ў твор і паступова замацоўваюць у свядомасці гледача (чытача, слухача) пэўны стэрэатып. Стыль — гэта самадастатковасць, гэта самабытны лад мыслення, уласнае гледзішча. Гэта тое, што робіць рамесніка творцам, чалавека — асобаю. У кароткім слове "стыль" сабраны цэлы свет пачуццяў, думак і ўчынкаў.

Да кагорты мастакоў, што валодаюць стылем, можна смела далучыць Уладзіміра Віншеўскага. І не ў тым рэч, што ягоны штрых, ягоную лінію не збылтаеш не з кім іншым. Хоць і гэта таксама важны момант. Тэхнічная дасканаласць твора ніколі не была для яго самамэтаю. Вішнеўскі ніколі не імкнуўся здзівіць гледача майстэрствам. Гэта атрымлівалася нібыта само сабою. За шаснаццаць год, што прайшлі з часу заканчэння нашага тэатральна-мастацкага інстытута, ён сцвердзіў сябе як прафесійнік і творца. І яшчэ як настаўнік, бо з таго ж 1987 года выкладае на кафедры графікі БДТМІ — БелАМ. Ягоныя станковыя аркушы і ілюстрацыі вабяць загадкавасцю і глыбінёю (хтосьці сказаў бы "як прорва", хтосьці — "як неба"). Тое, што аркушы маюць назвы, а ілюстрацыі прывязаны да тэкстаў, не раскрывае іхняй таямніцы. Хіба што крыху прыадкрывае дзверы, за якімі кожны ўсяроўна пабачыць сваё — тое, да чаго падрыхтаваныя ягоныя розум і сэрца.











Калі б шукаць у літаратуры аналаг мастацтву Уладзіміра Вішнеўскага, дык гэта мог быць бацька беларускага сюррэалізму, аўтар "Шляхціца Завальні" Ян Баршчэўскі. Вішнеўскаму ўвогуле пасуе нашае гераічнае Сярэднявечча. У кунтушы і з шабляю альбо ў рыштунку "крылатага" гусара з дзідаю, як глядзеўся б не менш натуральна, чым з алоўкам ці пэндзлем.

Ёсць у ягоных творах нешта ад сярэднявечнай містыкі. Ці то прыдуманае, але да болю знаёмае і да шоку нечаканае. У кожнага мастака ёсць любімая тэхніка. Спакусная, бо найбольш адпавядае ягонай натуры. Вішнеўскі перадусім шануе афорт, бо ён патрабуе цвёрдай рукі, разумення задачы і тэхналагічнай дысцыпліны. А вось акварэль для Вішнеўскага — адпачынак. Тут можна разняволіцца, дазволіць сабе эксперымент, не надта думаючы пра вынік. Бо акварэль — гэта найперш настрой, эмоцыя.

Досыць нечакана было для мяне пазнаёміцца з аб'ёмнай пластыкай мастака. Дальбог, гэтыя рэчы зрабілі б гонар дыпламаванаму скульптару.

Далёка не ва ўсіх работах Уладзіміра Вішнеўскага прысутнічаюць акрслена беларускія рэаліі, але ва ўсіх ёсць Беларусь. Гэта тое неўлоўнае, што часам мы называем замежным словам "менталітэт", але часцей — нашым словам "душа".

Я запытаў мастака, чаму адзін і той жа прыём — светлая рыса на цёмным фоне, ён скарыстоўвае ў самых розных сюжэтах. "Мне падабаецца вылучаць з цемры святло", — адказаў спадар Уладзімір. Мне падумалася, што па сэнсе гэта нагадвае лацінскае выслоўе "PER ASPERA AD ASTRA" – "праз церні да зорак". З тым, праўда, удакладненнем, што і церні, і зоркі мастак стварае сам.

Пётра ВАСІЛЕЎСКІ









# ЧАРНОБЫЛЬ ЗУСІМ БЛІЗКА...



Камарын. Ад райцэнтра Брагіна да яго 50 кіламетраў. Другі бераг Дняпра — ужо Украіна. Побач і Чарнобыль. Горад і той чацвёрты блок, што атруціў зямлю, лес і чалавецтва. Але перш чым адправіцца ў Камарынскі лягсас, вырашылі напаследак заглянуць у Брагінскі краязнаўчы музей. Аднаго з нас цікавіць: дзе ўсё ж той славуты метэарыт захоўваецца, пра які некалі шмат пісалі і на які маюць вока нават маскоўскія спецыялісты? У Хойніках няма — самі праверылі. У Камарыне, кажуць, таксама. Пакуль вадзіцель Камарынскага лягсаса Уладзімір Крымінскі адвозіў паперы ў банк, а з дырэктарам Хойніцкага лягсаса У. Луцко яшчэ не развіталіся, то вырашылі праехаць на ягонай "Волзе" да музея... Бачу, паглядзець, што з сябе ўяўляе той метэарыт, захацелася і Уладзіміру Мікітавічу.

І мы знайшлі метэарыт! Ляжаў ён на століку ў фае і добра быў бачны праз расчыненыя насцеж дзверы. Наблізіліся. Не адразу намі зацікавіліся, што дало падставу падумаць: і якая ж тады ён каштоўнасць, калі асабліва і не ахоўваецца? Ці, можа, тут, у Брагіне, дзе ўсё прыцярушана радыяцыяй, асаблівыя адносіны да каштоўнасцей не толькі матэрыяльных, але і духоўных? А метэарыт — вось ён. Генадзь Говар паспрабаваў падняць, з першага разу не атрымалася: усё ж 38 кілаграмаў важыць. Гэта ён, дарэчы, больш чым хто шукаў метэарыт... Цяпер вось мацае рукамі, дзівіцца: і што за метал, што за сплаў? Не разумее. Метал і метал. А сам метэарыт занесены ў метэарытны каталог свету пад назвай "Брагін". Таму што паблізу ад гэтага райцэнтра ўпаў, прадраўшыся неяк праз шчыльныя слаі атмасферы — не згарэў. Першыя метэарытныя дажджы тут зафіксаваны яшчэ ў 1807—1809 гадах.

І ўжо будучы каля чацвёртага блока Чарнобыльскай АЭС, падумалася: нейкае тут месца гіблае, праклятае, ці што, бо ўсё ляцідь, сыплецца на галовы людзей. Акрамя дажджу. Сёлета яго ў гэтых мясцінах надта ж мала выпала...

Вось такая аказія.

З лягсасаўскім вадзіцелем Крымінскім дарога да Камарына падалася надта блізкай. Гаварун. А сказаць што чалавеку ёсць. Сам з Карпатаў, будаваў некалі Чарнобыльскую атамную, у Камарыне напаткаў каханне. Паляўнічы. Рыбак. Чаму дамоў не вярнуўся? Усё ж — аварыя, а Камарын побач. Адказ адзін: а мне тут прырода падабаецца. І кропка!

— Пасля аварыі, помню, прыехалі нейкія спецыялісты ці начальнікі, — Уладзімір Крымінскі ўсміхаецца, — і ў масках ходзяць. А нашы дзеці на вуліцы гуляюць. Тады я і кажу аднаму з іх: эй, друг, не палохай дачку! Бачыш, плакаць сабралася. Знімі маску. Не паслухаўся. А на Украіну ездзіў іншы раз. Рэдка. Цяпер шмат туды не наездзішся.

Спярша яшчэ пра Камарын, пра яго мінулы і сённяшні дзень. Прайшліся пехам па гарпасёлку з дырэктарам лягсаса Уладзімірам Іванавічам Пашынскім. Зазірнулі ў бібліятэку, пастаялі каля школы, памылі рукі ў Дняпры.

Камарын — першы населены пункт у Беларусі, вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Цішыня і спакой тут. На слупах ці дошках аб'явы кшталту наступных: "Прадаю карову. Прадаю дом... Адбудзецца дыскатэка, кошт квітка 616 рублёў". У сераду прыязджае фатограф. Пашынскі падказвае: "З Украіны". Ад яго таксама даведваемся, што бальніца, міма якой праходзім, знаходзіцца ў памяшканні былога райвыканкама. Старшыня пасялковага савета Уладзімір Карташ спыніўся каля помніка воінам-вызваленцам, цікавіцца, як ідзе рэстаўрацыя. У школе ўсе прадметы выкладаюцца на беларускай мове. Забыліся людзі, як звалі Хаўкіна, працаваў некалі ён у культуры, памёр, а яго "Камарынскі вальс" і сёння тут спяваюць. Каля лягсаса маленькая аўтастанцыя. Побач стаіць вольнае памяшканне з забітымі вокнамі, можна было прыстасаваць пад аўтастанцыю, аднак на рамонт няма грошай. Хлеб прывозяць з Брагіна ці нават з Хойнікаў, свайго завода няма. Няма і малаказавода. Кажуць, танней быццам бы прывезці хлеб і малако, чым вырабляць на месцы.

Вось у такім гарпасёлку, прыгожым і ўтульным, ціхім і падобным на вялікую вёску, дзе адзін аднаго ведае, месціцца лягсас. Ні для каго не сакрэт, што ён тут карыстаецца аўтарытэтам, як і чалавек, што носіць зялёную форму. Працоўных месцаў асабліва ў гарпасёлку не знойдзеш, а лягсас дае такую магчымасць. Няхай не вялікія грошы, але выплачвае людзям іх амаль што рэгулярна. Уладзімір Крымінскі, бы між іншым, нагадаў дырэктару, што заўтра трэба ехаць у Брагін — па зарплату, а заадно можна вырашыць і нейкія іншыя справы. Ехаць па зарплату — адчувалася, занятак амаль што святочны. Але ж, каб ехаць па грошы, трэба іх зарабіць. Прыходзіцца круціцца і самому Пашынскаму, і ягоным намеснікам, і рабочым... Лес і корміць. Але ён бы мог карміць і лепш, толькі ўсе лягсасы, пагадзіцеся, прапаноўваюць на экспарт адно і тое ж — еўрапакеты... Маракавалі ў Камарыне, як бы пашырыць асартымент, але пакуль нічога канкрэтнага не прыдумалі. Хацелі рабіць рудстойкі для шахтаў Данбаса, па Дняпры і адпраўляць іх можна, але суседзі з "Чарнобыльлесу" не параілі: цяпер шмат вушлых хлопцаў развялося, у дарозе ўсё "прыхватызуюць", і канцоў не знойдзеш.

А лягсас расцягнуўся з поўначы на поўдзень амаль на 120, а ў шырыню — на 40 кіламетраў. На тэрыторыі трох адміністрацыйных раёнаў пануе ён: Брагінскага, Рэчыцкага і Лоеўскага. Ёсць дзе разгарнуцца. Толькі няма як. Бо тыя ж беды, што і ў астатніх лягсасах. Што і ў краіне. Таму тут, у Камарыне, спадзяюцца на лепшыя часы, не панікуюць, а робяць сваю справу так, наколькі дазваляе сітуацыя.

Спярша пра справы лягсасаўскія вырашана было пагаварыць з Мікалаем Паўлавічам Мазалавым. Пашынскі так і сказаў:

— Мой кансультант і настаўнік. Каб побач не было гэтага чалавека, адчуваў бы сябе цяжкавата ў дырэктарскім крэсле. Шмат чаму навучыўся і вучуся сёння ў яго.

Аднак знайсці Мазалава аказалася справай нялёгкай — у водпуску чалавек, таму адправіўся на рыбалку. З ягонай лодкай па тэлефоне не звяжашся, ды і дзе ён адводзіць душу — таксама мала хто ведае. Мікалаю Паўлавічу, відаць, моцна ікаецца, бо мы ўспамінаем яго. Сёння ён працуе інжынерам па ахове працы, а да 1995 года быў галоўным ляснічым. Прапаноўвалі ў свой час яму ўзначаліць і лягсас, але тактоўна адмовіўся, спасылаўшыся на моладзь, з якой яму цягацца цяжкавата, а такім, як той жа Пашынскі, і карты ў рукі. "А я побач буду. Падкажу, калі што..." Словы свае трымае. І хоць чалавеку далёка за семдзесят, рыбу лавіць ён адпраўляецца на лодцы, а Дняпро ў той дзень хваляўся — на бераг нагортваліся хвалі, разпораз зминялі адна другую, і мы пажадалі рыбаку добрага ўлову. Але ж і надзеі сустрэцца з ім і бліжэй пазнаёміцца таксама не пакідалі.

Адно, прабачце, лірычнае адступленне. Камарынскі лягсас 20 гадоў з хвосцікам узначальвае Уладзімір Пашынскі, а галоўны ляснічы тут яго жонка — Валянціна Іванаўна. Спярша жанчына скончыла Віцебскі ветэрынарны інстытут, пасля — Брагінскі тэхналагічны, як, дарэчы, і муж. Старэйшая дачка пасля вучобы ў ГДУ імя Ф. Скарыны працуе настаўніцай у Камарыне, а яе муж — спецыяліст па рамонце радыё- і тэлеапаратуры. Малодшая, Людка, школьніца. Так, як і бацька, любіць усё жывое, таму Пашынскі — не паляўнічы, хоць і дырэктар лягсаса. Нонсенс, але так!

Каб трапіць у Верхнія Жары, трэба абавязкова перасячы дарогу, якая злучае Чарнобыль з Чарнігавам. Асфальт. Дарога пабудавана пасля аварыі, а больш вядомая яна сёння тым, што па ёй ехаў Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў. Сёння дакладна мала хто помніць, калі гэта было. Але я запомніў добра — быў люты 1987 года. Якраз у гэтыя лютаўскія дні быў я мяне сустрэчы з чытачамі ў Брагіне, на адзін дзень павінен быў прыехаць я і ў Камарын. Але той дзень супаў з днём прыезду Гарбачова... І мяне не пусцілі. Асабліва я, вядома ж, не перажываў, вярнуўся ў Гомель, аднак усё гэта ажыло ў памяці, калі мы ехалі ў Верхнія Жары.

— Меры перасцярогі тады былі прыняты надта ўжо жорсткія, — прыгадвае Уладзімір Пашынскі. — Нашых леснікоў затрымалі, на працу не пусцілі... А картэж машын пранёсся — і толькі бачылі генсека. Імгненне. Так што гэта дарога славутая. Мы па ёй яшчэ сёння паедзем — магчыма, атрымаецца, дык трапім і да атамнай...

Столькі пяску, як у Верхніх Жарах, я бачыў, бадай што, у туркменскіх Каракумах. Магчыма, і не зусім удалае параўнанне, але ж і сапраўды — пясок і пясок. Як гаворыць дырэктар лягсаса, сасна і тая тут расці не хоча. Прыглядаемся, а што ж на агародах у людзей? Вока нічога не радуе. Дождж патрэбен гэтай глебе, а яго няма. Памочнік ляснічага, малады і сімпатычны хлапчына Сяргей, як прадставіўся ён нам, ляпае па дрэве: не сурочыць бы... пажараў няма пакуль, дзякаваць Богу. Хоць і сухмень.

Сяргей жыве ў Камарыне, на працу ездзіць. На ўсялякі выпадак абзавёўся тут летняй рэзідэнцыяй — купіў, кажуць, побач з лясніцтвам падворак за капейкі, а гаспадар яшчэ пакінуў яму ў давесак і старэнькі "пікапчык". Машыну рамантаваць трэба, хату таксама, а на двары, у цяньку, можна пасядзець, перакусіць. Што і зрабілі. Гэта ўжо крыху пазней, спярша ж пабывалі ў маёнтку пана Рыбнікава. Вялізная аднапавярховая хата. Шырокія прасторныя пакоі. Высокая столь. І ўсюды нешта ламаецца, крышыцца... Толькі, як заўважыла бухгалтар лясніцтва Любоў Андрэеўна Блудная, паразвальвалася савецкае, а панскае стаіць. Вядома ж, дом будаваўся даўно — сёння ніхто не можа сказаць, колькі яму гадоў, як не можа сказаць, як звалі пана — добра, што ў памяці хоць прозвішча захавалася. Дык яго неадназова рамантавалі, нешта прыбудоўвалі, і тое, што рамантавалі і прыбудоўвалі, дык сваё аджыло. А дом стаіць. На падлозе пабачылі б дошкі, якія нейкім цудам захаваліся! А вушакі? А дзверы? Залезлі неяк на гарышча леснікі (а тут было лясніцтва) і дзіву даліся: як усё захавалася добра, бы толькі ўчора зроблена. Што значыць падбіралі лесаматэрыял, не на адзін дзень будавалі — на вякі.

А пан жа тут, у Верхніх Жарах, атабарыўся з далёкім прыцэлам. Два кіламетры да Дняпра, а рака на той час была і дарогай, і чыгункай, і небам. Да Дняпра ён праклаў вузкакалейку. Пабудаваў спіртзавод. Вырабляў дзёгаць і шкіпінар. Гандляваў лесам. У канцы пяцідзесятых—пачатку шасцідзесятых гадоў у лясніцтве працаваў бухгалтарам Пётр Коваль, які быў бухгалтарам і ў пана, то хваліў свайго былога гаспадара і любіў падкрэсліваць, што калі выдаваў заработную плату людзям, то ніхто і ні ў якіх ведамасцях не распісваўся — сам для сябе, каб не забыцца, ставіў "птушачку", і ўсяе справы. Давер у чалавека да чалавека быў незвычайны.

А пра што яшчэ гаварыў бухгалтар Коваль, папытаць няма ў каго...

Быць на Брагіншчыне і не наведаць вёску Чыкалавічы — недаравальна. Тут нарадзіўся і вырас народны мастак Беларусі Гаўрыла Вашчанка, выдатны мастак і мудры чалавек. Нядаўна ў Гомелі адчынілася дзверы карціннай галерэя, якая носіць яго імя. Рэдкі выпадак, калі пры жывым класіку называюць рэчы, як кажуць, сваімі імёнамі. Але ж так здарылася, і мы пабывалі ў вёсцы Вашчанкі, з якой ён па Дняпры паплыў некалі ў Кіеў, каб паступіць у мастацкае вучылішча. Чыкалавічы, на жаль, напаткаў лёс шматлікіх вёсак, што трапілі пад чарнобыльскі пыл: яна адселена...

Па гарбачоўскай дарозе едзем у напрамку Чарнобыля. Спадзяёмся нейкім чынам прабрацца праз кантрольна-прапускны пост. Пашынскі трымае пакуль у тайне, як ён будзе гэта рабіць, але калі вязе, то, пэўна ж, спадзяецца на лепшае.

Па дарозе заўважаем вялізны, тоўсты і буйны ланцуг, якім абхоплены дуб. Крымінскі тлумачыць, што гэта будаўнікі дарогі пакінулі памяць пра сябе. Далей была некалі глыбокая яма, куды прывозілі і злівалі малако з усяго Брагінскага раёна.

— Не было чым дыхаць, — здаецца, і сёння казытнуў нос той пах вадзіцелю.

Пайшлі шыльды на ўкраінскай мове. Як і нашы, просяць берагчы лес. Але шыльды старыя, выцвілі на сонцы. Ды ўражвае не гэта – уражвае бязлюддзе. Ні машын, ні людзей. Толькі ліса перабегла дарогу. Гнятліва.

На КПП Уладзімір Іванавіч доўга звоніць аднаму яму вядома куды, чакае. Прапаршчык-міліцыянер добра шпарыць на ўкраінскай мове, распытвае, як жыве Беларусь, расказаў нам анекдот, спярша, праўда, пацікавіўся, адкуль узялася беларуская мова. "Напіўся хахол і загаварыў па-руску..." Анекдот з барадой, але прапаршчык умела і да месца яго расказаў, таму злёгку ўсміхнуліся. Мы таксама пажартавалі: сказалі, беларусы не п'юць, а то і яны б такім чынам вынайшлі ўкраінскую мову...

Атрыманы дазвол на праезд, і неўзабаве на масце праз Прыпяць спыняемся. У смузе бачым ЧАЭС. Далекавата. Здымак не атрымаецца. Таму едзем далей, а мост, які, дарэчы, пабудаваны адразу ж пасля аварыі, раней тут была паромная пераправа, застаецца ззаду. Нас ужо чакае дырэктар "Чарнобыльлесу" Мікалай Калетнік. З Пашынскім яны старыя знаёмыя, у сакавіку абавязкова сустракаюцца на нейтральнай паласе і заключаюць дагавор на супрацоўніцтва, а мы прадстаўляемся. Калетнік ахвяруе візітоўкі, з якіх, акрамя ўсяго, даведваемся, што ён вучоны-лесавод — кандыдат сельскагаспадарчых навук, піша кніжкі, і, як аказваецца, вельмі прыемны чалавек. І — аўтарытэтны ў Чарнобылі. Асабліва, калі апрануў свой "генеральскі" мундзір: вельмі пасуе яму, нічога не скажаш!

— Што, да атамнай?

— Да атамнай!

Канечне, быць у Чарнобылі і не паглядзець на той чацвёрты блок, што начадзіў цэзіем на ўвесь белы свет, недаравальна. Зноў званкі, узгадненні... Тут ужо гаспадар Калетнік. Усе пытанні вырашаюцца станоўча, атрымліваем дазвол і займаем месцы ў "Волзе" дырэктара "Чарнобыльлесу". Мікалай Мікалаевіч спярша знаёміць нас з горадам. З горадам Чарнобылем. Там-сям сустракаюцца людзі, аўтамашыны. Шмат пакінутых хат, у шматкватэрных дамах не ўсюды фіранкі на вокнах: здагадваемся, што там ніхто не жыве. Затое ў горадзе жыве шмат дзікоў. Калетніку нават мясцовыя ўлады паставілі задачу паляваць на іх, а то, бач ты, ходзяць тут, як у лесе. Нахабнікі! Калетнік адмовіўся, сказаў, што ў горадзе на паляванне не ходзяць — небяспечна. Але факт гэты гаворыць багата пра што. Больш таго, у "Чарнобыльлесе" Калетнік ліквідаваў егерскую службу — скараціў, такім чынам, каля сарака чалавек. "Не патрэбна яна нам". Ворагаў нажыў. Аднак, лічыць, паступіў правільна: тут сёння не да егерства...

На вуліцы імя Кірава спыніліся каля помніка чарнобыльцам. "Тым, хто выратаваў свет", — такія словы прачыталі на ім. А потым — прамой дарогай на атамную. На КПП прапусцілі, ледзь не казырнуўшы. Рыжы лес, што атруціўся адразу ж, убралі, а на яго месцы пасадзілі ўручную новы. І вы б пабачылі, як ён хутка вырас.

На атамнай ціха, не відаць людзей, толькі корпаюцца некалькі рабочых, што ўзводзяць сховішча для адыходаў. Насупраць – пяты і шосты блокі, так і не дабудаваныя... Мы ж дзівімся на чацвёрты блок, які шмат разоў бачылі па тэлеэкране, на здымках у газетах. Нават не верыцца, што некалі тут былі такі мурашнік. Цішыня...

Вярнуліся ў Камарын прыцемкам. Як там наш рыбак М. Мазалаў? Ці пашчасціла? Кажуць, удача яму заўсёды спадарожнічае на рацэ. Як, прынамсі, і ў жыцці. Ужо 48 год ён працуе ў лесе. Уяўляеце? Зніміце перад гэтым чалавекам шапку пры сустрэчы. Выглядае ж, як і падкрэслівалі лягсасаўцы, ён значна маладзей за свае гады. Моцны яшчэ дзядок! І прапануем, каб не губляць часу, Мазалаву праехаць з намі па адселеных вёсках — па дарозе ў напрамку Хойнікаў, ён ахвотна пагаджаецца, і мы кранаемся. Сам Мікалай Паўлавіч з вёскі Старая Слабада Буда-Кашалёўскага раёна, але лічыць сябе карэнным камарынцам. Сюды на выхадныя прыязджаюць яго дзеці, дачка і сын, з Гомеля, якія маюць вышэйшую адукацыю, уладкаваліся, як лічыць бацька, добра....

"Уазік" нясе нас па закінутай асфальтаванай дарозе, застаецца ззаду пасёлак Сонечны (пра яго нават, падкрэслівае У. Пашынскі, Цэнтральнае тэлебачанне паказвала сюжэт, а цяпер і новы жывёлагадоўчы комплекс, і шматкватэрныя дамы для рабочых зеўраць на нас пустымі вачніцамі вокнаў), застаюцца ззаду вёскі Савічы, Пучын, Ясені... Вёскі без людзей. Вёскі без будучыні. Адны назвы на шыльдачках — каб ведалі, што яны былі... Але ўсюды, як вокам акінуць, расце лес.

Вось на такой зямлі жывуць і працуюць камарынскія лесагаспадарнікі.

Пад Чарнобылем.

Побач з Чарнобылем...

Сфатаграфаваліся і мы з Генадзем каля чацвёртага блока ЧАЭС. На памяць. Але, прызнаемся, усё ж большыя ўражанні засталіся ў нас ад сустрэч з лесам і людзьмі, якія працуюць у ім і якія сталі героямі гэтых нататак. Таму нават крыху сумна стала, што закончылася наша вандроўка.

**Васіль ТКАЧОЎ**

# ДА СТАГОДДЗЯ «ГРАМАДЫ»




**Клуб "Спадчына", якім кіруе Анатоль Белы, да стагоддзя "Грамады" выпусціў паштоўку.**

# УСПОМНІЛІ НЯТЫЛЬКІНА

**Вядомы беларускі пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Уладзімір Ліпскі нядаўна быў жаданым госцем у Гомельскім таварыстве інвалідаў па зроку. Прыехаў ён з новай кнігай "Сын дня", якая расказвае пра вядомага ў нашай краіне чалавека — Анатоля Іванавіча Нятылькіна, які ў адзінаццаць гадоў страціў зрок. Сляпы, ён закончыў школу, два інстытуты, прайшоў складаны шлях жыцця, стаў кіраўніком Беларускага таварыства інвалідаў па зроку, дэпутатам парламента. Да апошняга дня жыцця Нятылькін упэўнена пераадольваў зямныя выпрабаванні.**

**Акрамя аўтара кнігі, пра А. Нятылькіна цёплыя словы гаварылі яго вучні, калегі па працы, родныя і блізкія людзі, а таксама кіраўнік Беларускага таварыства інвалідаў Алег Шэпель, які ўзначаліў гэтую арганізацыю пасля Анатоля Іванавіча.**

**Юры ВАСІЛЁК**



**Кафедра беларускай літаратуры XX стагоддзя БДУ выказвае спачуванне дацэнту кафедры славянскіх літаратур Тацціяне Вячаславаўне КАБРЖЫЦКАЙ у сувязі з напаткаўшым яе вялікім горам — смерцю маці.**

**Кафедра беларускай літаратуры XX стагоддзя БДУ выказвае спачуванне дацэнту кафедры Усеваладу Вячаслававічу РАГОЙШУ ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю бабулі.**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае шчырае спачуванне пісьменнікам Тацціяне КАБРЖЫЦКАЙ і Вячаславу РАГОЙШУ ў сувязі з напаткаўшым іх горам — смерцю маці і цешчы.**

# БАБА

## Словы пра маю бабу Броню Адамчык (Шайбак)



### Камень

Любімым сынам у дзедавай сям'і быў малодшы з трох братоў — Ян. Дзеля Яна дзед з бабай пасадзілі сад, дзеля яго пачалі будаваць дом у яблыневай засені. Калі зрабіўся падмурак, суседзі напісалі скаргу, нібыта наш новы дом загародзіць ім сонца. Дзяржава ўзяла бок суседзяў, бо наша вёска апынулася ў спісе неперспектыўных. У такіх вёсках забаранялася будавацца. Каб скаргі не было, дык не прыехаў бы бульдозер і не пакрышыў бы падмурак. Прыпёрся, насмуродзіў сінім дымам і, зламаўшы плот, патрушчыў цэментовыя брусы. Бульдозер з'ехаў, а ўзрадаваная суседка на ўсю вуліцу ўсхваляла Бога і кляла нашых сваякоў да пятага калена. Баба Броня падняла з зямлі камень і пусціла ў галаў суседкі. Тая змоўкла, павалілася на дарожны пыл і ляжала, пакуль не прыехалі міліцыянты. Баба Броня сказала, што суседка сама сабе разбіла галаву, каб нас абгаварыць, бо разбуранага падмурка ёй замала. Міліцыянты вырашылі правесці следчы эксперымент, бо сведкі меліся з абодвух бакоў. Асноўнае пытанне, на якое мусіў адказаць эксперымент: ці магла баба Броня дакінуць такі вялікі камень з таго месца, дзе стаяла, да таго месца, дзе павалілася суседка. Колькі разоў мянты не спрабавалі дакінуць камень, ні разу не дакінулі, пра тое, каб пацэліць у лоб, гаворкі не вялося. Гэтым разам улада стала на бок бабы Броні. Толькі радасці не было. Дзе ж ты парадуешся, калі твой плот, твой сад, твой падмурак пабурылі, а твой любімы сын змушаны з'ехаць ад цябе назаўсёды.

### Казка пра дзедаву дачку

Дзедава хата. Цёмна. Не сплю, варочаюся на льняной прасцінцы. "Валодзя, чаму не спіш?" — баба Броня гладзіць мяне па галаве. "Не спіцца..." "Давай я табе казку раскажу. Слухай... Была ў дзеда дачка, і ў бабы — дачка. Купіў дзед бычка Трацячка. Выправіла баба дзедаву дачку пасвіць бычка і дала ёй пук верацён і пук кудзялей, каб у полі дзедава дачка нітку ссукала, палатно саткала, выбеліла і дадому гатовае прынесла. Навязала дзедава дачка бычка Трацячка ў полі, а сама села побач і плача. "Што ты плачаш?" — пытаецца бычок у дзедавай дачкі. "Дала мне мачыха пук верацён і пук кудзялей і загадала прынесці з поля гатовае палатно". "Не плач. Я ўсё зраблю". З'еў бычок Трацячок пук верацён і пук кудзялей, а высраў скрутак белага палатна. На другі дзень баба дала дзедавай дачцы дзесяць пукоў верацён і дзесяць пукоў кудзялей, а сваёй дачцы наказала пільнаваць. Высачыла тая, што не дзедава дачка палатно прадзе і беліць, а бычок высірае. На трэці дзень баба паслала ў поле сваю дачку пасвіць бычка Трацячка і дала ёй сто пукоў верацён і сто пукоў кудзялей. Загадала бабіна дачка бычку Трацячку з'есці сто пукоў верацён і сто пукоў кудзялей. З'еў бычок Трацячок сто пукоў верацён і сто пукоў кудзялей і стаіць. Залязла бабіна дачка бычку Трацячку пад хвост, думала, выйдзе з-пад хваста палатно. А бычок Трацячок абасраў бабіну дачку з галавы да ног. Прапала сто пукоў кудзялей і сто пукоў верацён. Загадала баба дзеду зарэзаць бычка Трацячка. Пайшоў дзед нож вастрыць, каб зарэзаць бычка. А дзедава дачка пабегла да Трацячка, абняла яго за шыю і плача. "Не плач, дзедава дачка, а мяне паслухай... Калі зарэжуць мяне і скажуць табе панесці на рэчку і там памыць мае вантробы, ты знойдзеш у іх залатое зярнятка. Пасадзіш яго каля хаты. З залатога зярнятка вырасце залатая яблыня з залатымі яблыкамі, яны дапамогуць табе..." "Спі, заўтра дакажу, як залатое зярнятка дапамагло дзедавай дачцэ і звяло са свету бабіну дачку..." "Не хачу спаць, хачу даслухаць, як залатое зярнятка звяло са свету бабіну дачку". "Зарэзаў дзед бычка Трацячка. Панесла дзедава дачка на рэчку вантробы, памыла іх і знайшла залатое зярнятка. Пасадзіла дзедава дачка залатое зярнятка каля хаты. Вырасла з таго зярнятка залатая яблыня з залатымі яблыкамі. Ехаў царэвіч на белым кані. Убачыў залатыя яблыкі і захацеў пакаштаваць. Яблыня ўзняла свае галіны высока-высока. Не змог царэвіч дастаць ніводнага яблычка. Папрасіла дзедава дачка яблыню, каб тая нахіліла галінку. Пакаштаваў царэвіч залатое яблыка і закахаўся ў дзедаву дачку. Пасадзіў яе на каня, і паскакалі яны ў палац жыць. Праз дзевяць месяцаў нарадзіўся ў іх сын Салівон. Запрасіў царэвіч на хрэсьбіны Салівона ўсіх сваякоў. Баба з дзедам прыйшлі і бабіну дачку прывялі. Пакуль госці гулялі, баба і бабіна дачка схапілі дзедаву дачку, прывязалі на шыю камень і ў рэчку ўкінулі. Расплакаўся Салівон, цыцкі захацеў. Пабеглі госці Салівонаву мамку шукаць і пачалі гукаць... Салівон плача, цыцку просіць! Салівон плача, цыцкі хоча! Пачула дзедава дачка, як плача яе сын Салівон, і адгукнулася... "Я бягу-бягу падбягаю, камень грудзі мае прыціскае, раса вочы мае выядае..." "Баба? Як гэта раса вочы выядае?" "Гэта не тая раса, што зранку на траве, а тая трава, што на дне рэчкі расце і нібыта змеі зялёныя па пяску сцеліцца..." "Далей..." "Пачулі госці голас дзедавай дачкі. Выцягнулі яе з рэчкі. Накарміла яна цыцкаю сына Салівона. А злую бабу і бабіну дачку царэвіч раздзярэ на баране! Спі!" І я спаў на белай ільняной прасцінцы.

### Казка пра лісічку

На стале талерка з забеленай фасоляю. "Валодзя, бяры лыжку і еш," — баба Броня сядае побач і заглядае мне ў вочы. Набычваюся: "Не хачу". "Фасоля мякенькая, у печы пастаяла. Паглядзі на яе, нібыта цукеркі... Ты будзеш есці, а я казку раскажу. Еш і слухай... Жылі дзед і баба. Скончылася ў іх яда. Выправіла баба дзеда рыбу лавіць і наказала нікога на воз не садзіць. Запрог дзед каня і паехаў на рэчку. Налавіў рыбы цэлы мяшок і дахаты вяртаецца. Даганяе дзеда лісічка і просіць: "Дзед, падвязі мяне да лесу". "Не падвязу, мне баба наказала нікога на воз не садзіць". "Усё, больш не буду, жывот забаліць". "Пабаліць і перастане. Еш і слухай... "Ты, дзед, нікога і не пасадзіш, калі адну маю лапку падвязеш. Можна, я адну лапку пакладу, замерзла ў мяне лапка". "Ну, кладзі сваю лапку". Паклала лісічка лапку на воз, крышку прабегла і далей просіцца: "Дзед, ты такі добры і паслухмяны, можна, я другую лапку на воз пакладу?" "Ат, кладзі і другую". Ну, дзе дзве лапкі лісічкіны леглі, там і чатыры апынуліся. Толькі хвост дзед не дазволіў класці на воз. І дарма не дазволіў, бо лісічка хвастом замятала ў снег рыбу, якую паціху выкідала з прадранага мяшка. Як выпатрашыла лісічка мех, дык падзякавала дзеду і шуснула ў лес, каб вярнуцца і паесці смачнай рыбы. Прыехаў дзед пад хату, а баба на падворку чакае: "Налавіў?" "Ого, шмат налавіў!" — глянуў дзед на воз, а там пусты і дзіравы мех ляжыць. "Ты каго, дзед, падвозіў?" "Нікога. Адну лапку лісічкі, надта ўжо прасілася". "Ну і сядзі галодны, калі бабу сваю не паслухаў. Хай тваю рыбу лісічкі ядуць". Вось і ўсё. Бабу трэба слухаць і фасолю трэба есці.

### Казка пра Васільку

Дождж. "Баба Броня, я пагуляць пайду?" "Куды ты такім дажджом пойдзеш? У хаце пасядзі, а я казку раскажу... Быў у маці сынок, звалі Васілёк. Любіў Васілёк рыбу лавіць. Прывядзе яго маці на возера, пасадзіць у чаўнок і накажа: "Сынку Васільку, плыві і рыбу лаві, толькі да берагоў не падплывай, бо вядзьмарка схопіць цябе, паняце і з'есць. Толькі калі я цябе паклічу, ты да берага плыві". Так і павялося. Прыходзіла маці і клікала: "Сынку Васільку, плыві на беражок, дам табе піражок". Прыплываў чаўнок на беражок, і маці частавала сынка піражком і вяла дахаты. Прачула вядзьмарка, што Васілёк рыбу на возеры ловіць. Прыйшла, схавалася за вярбу і гукае: "Сынку Васільку, плыві на беражок, дам табе піражок". А Васілёк адказвае: "Не паплыве мой чаўнок на беражок, бо ў маёй маці голас тоненькі, а ў цябе, вядзьмарка, — тоўсты". Пабегла вядзьмарка да каваля і папрасіла расплюскаць язык, каб голас патанчэў. Расплюскаў каваль вядзьмарскі язык, і голас патанчэў. Прысунулася старая вядзьмарка на возера, схавалася за дрэва і кліча тоненькім голасам: "Сынку Васільку, плыві на беражок, дам табе піражок". Прыплыў чаўнок на беражок. Схапіла вядзьмарка Васілька, закінула на плечы і панесла, каб у лесе засмажыць і з'есці. Несла, несла, стамілася і сраць захацела..." "Баба Броня, я таксама ў прыбіральню хачу". "Схадзі, толькі дзедаў пінжак накінь, каб не змокнуць". Злётаў я ў прыбіральню і хутка вярнуўся. "Пасадзіла вядзьмарка Васілька на пень, а сама побач сраць села. Пачаў Васілёк прасіць пень: "Расці, расці, пень. А каб ты, ведзьма, не высралася!" "Што ты там гаворыш?" "Прашу Бога, каб табе лёгка сралася". " Ну, прасі". Пад'еў і бяжы гуляй, каб жывот не балеў". І я бег на рэчку да хлопцаў гуляць у вайну.

**Адам ГЛОБУС**



Прасіў Васілёк пень, і той вырас пад самае неба. Высралася вядзьмарка і бачыць, што Васілёк сядзіць не на пні, а на высокім дрэве. Пачала вядзьмарка скакаць, каб Васілька дастаць. Не змагла даскочыць. Пачала дрэва грызці. Зубы пакрышыла, а дрэва не перагрызла. Пабегла да каваля, прынесла сякеру і кажа: "Сячы, сякера, па палену!" А Васілёк папраўляе: "Не па палену, а па калену!" Секанула вядзьмарка сабе па калену, разлавалася і пакульгала да каваля па пілу. Прынесла пілу і пілуе. А Васілёк паглядзеў на неба, каб у неба папрасіць паратунак. Ляцелі па небе качкі. Пачаў Васілёк качак прасіць: "Качкі, качкі, скіньце мне па пёрку, каб я крылы зрабіў і да маці паляцеў". Кінулі качкі па пяру, зрабіў Васілёк крылы і да маці паляцеў. А вядзьмарка не бачыла, што няма Васілька, і пілавала дрэва, і перапілавала. Паваліліся дрэва на вядзьмарку і забіла яе". "Баба Броня, дождж скончыўся". "Абувай боты і ідзі". І я ішоў на вымыты дажджом двор.

### Казка пра ваўка

Зімовы вечар. У хаце залатое святло лямпачкі, а за шыбамі глыбокая сінеча снежаньскіх халадоў. "Баба Броня, раскажы мне казку". "Пра каго?" "Пра зіму". "Добра, слухай казку пра ваўка... Жылі дзед і баба. Жылі, не бедавалі. Мелі скварку і да скваркі. На Куццю нагатавала баба розных прысмакаў, і селі яны з дзедам за святочны стол. Толькі сабраліся пачвэраць, як у шыбу нехта грукае. "Калядоўшчыкі..." — кажа баба. "Хто там?.." — пытаецца дзед. "Гэта я — воўк! Аддай, дзед, каляду, бо я бабу паваду!.." Цэлы мех гасцінцаў напакаваў дзед ваўку, і той пабег у лес. Селі дзед з бабай за стол, зноў чуецца пад вокнамі... "Аддай, дзед, каляду, бо я бабу паваду!.." Сабраў дзед усё, што ў хаце было, і аддаў ваўку. Ледзь пацягнуў воўк дзедавы падарункі. Залезлі дзед з бабай на печ. Сядзяць, маўчаць, доўга маўчалі, а потым баба кажа... "Воўк усё забраў, але ж мы з табою засталіся жывыя і здаровыя, гэта ж добра..." "Аддай, дзед, каляду, бо я бабу паваду!.." "Што ты да нас прычапіўся, воўк? Ідзі калядуй у другія хаты! Няма ў мяне больш нічога!.." — узбунтаваўся дзед. А воўк схапіў бабу, закінуў на спіну і бягом у лес. Застаўся адзін дзед у пустой хаце. Ні скваркі, ні да скваркі, ні бабы... "Хай бы ўжо і мяне воўк забраў!.." Толькі дзед так падумаў, як з'явіўся воўк, схапіў дзеда і ў лес паволак. Вось і ўся казка". "Баба, а каму іх пустая хата дасталася?" "Нікому не дасталася, бо не было ў тых дзеда з бабай унука. Каб у іх гадаваўся ўнук, дык не даў бы ён ваўку хату рабаваць. І хата перайшла б да яго. Наша хата дастанецца табе. Ты ж ваўка прагоніш?" "Праганю..."

### Печкуры

Баба запальвала керагаз і ставіла на яго патэльню. Па чорным сподзе патэльні з патрэскваннем разбягаўся скрылік масла. Печкуры выкочваліся ў муку, кляліся ў шапатлівыя алейныя карункі і залацелі проста на вачах. Печкуроў усяго тры. "Галоўнае — ты іх сам злавіў," — казала баба. Праз бабіна "сам" пачынала праступаць мая "самасць", маё сапраўднае "я". Галоўнае не смажаныя печкуры, не чорная патэльня, блакітны агонь і сіні керагаз...Галоўнае — сам. У большасці людзей сваё "я" з'яўляецца праз люстэрка. Вось ён — адбітак мяне, вось і я сам. Да мяне "самасць" прыйшла праз ловы, смажанне і паяданне залатых печкуроў з чорным хлебам.

### Ведзьмакі

Баба Броня казала, каб не даваў рукі старым людзям, як яны маюць паміраць. Тлумачыла тым, што чортава сіла не дае лёгкай смерці, а праз руку можна гэтую сілу перадаць іншаму чалавеку, што жанчыне лягчэй перадаваць хлопцу, а мужчыну лягчэй, калі руку падасць дзяўчына. Баба Броня, калі тое расказвала, сядзела на ложку, а я тым часам, седзячы за сталом, маляваў чырвоныя дзверы дзедавай хаты. Праходзіць, можа, хвілін пяць, я і забываю пра бабіны словы. А яна раптам на ўсю хату: "Прасіць будуць, а ты не давай рукі!" Так і запомнілася папярэджанне.

### Палітыка

У вёску да бабы Броні я прывёз паказаць сваю вершы з фотаздымкам, надрукаваныя ў часопісе "Маладосць". "Вось і ты, як і твой бацька Чэсь, пачаў займацца вершыкамі. А я й яму казала, і табе скажу... Кепскі занятак — палітыка. Палітыкаваць не трэба. Не палітыкуй, Валодзя. Уся палітыка заканчваецца аднолькава, давядзецца ўцякаць у Польшчу ці куды далей. Мой брат, Ян Шайбак, таксама палітыкаваў, а цяпер каля мора ў Польшчы жыве і сюды прыехаць не можа...»

ТАЕМНАЕ

# МАЛІТВА Ў БРОНЗЕ



Святы Божы Храм! Нельга ўявіць яго без крыжа над купалам, без лікаў Святых, цёплых агеньчыкаў свечак. А як доўга для нас, славян, ён быў без звону, без " малітвы ў бронзе". Колькі іх, вялікіх і малых званоў, было па-варварску скінута са званіц, разбіта, пераплаўлена.

Сёння, калі майстры нашага Мінскага прадпрыемства "Адменнае ліццё" пачынаюць адліваць звон, служыцца малебен прама ў памяшканні завода. А калі званы гатовыя, прывезены ў Храм, перш чым іх павесіць, іх, як немаўлят, "хрысцяць" і нават даюць ім імёны, напрыклад : Святочны, Цар-звон, Успенскі, і інш.Служыцца спецыяльны "Чин освящения кампана".А якія дзіўныя малітвы гучаць у час гэтага таемства: "О еже подати ему благодать, яко да вси слышащии звинение его, или во дни или в нощи, возбудятся к славословию имени святого Твоего, о еже отгнати всю силу, коварства же и наветы невидимых врагов, от всих верных своих глас звука его слышащих, и к деланию заповедей своих возбудят я". Асвечаны Дарам Божым Святага Духа метал атрымлівае сілу сваім звонам ачышчаць паветра ад заразы, інфекцыі, утаймоўваць буру.Так, як і чалавека ў час хрышчэння, званы асвячаюць мірапамазаннем, згодна параграфа Трэбніка (богаслужэбная кніга), епіскап асвячае нутро звона сямю крыжападобнымі памазаннямі асвячоным алеем.

Таму дзіўна, але факт, што звоняць званары і сваім званам лечаць зямлю. Урач А. Гняздзілаў, які сёння працуе ў хоспісе ў Санкт-Пецярбургу, дзе хворыя на рак знайшлі свой апошні прытулак, правёўшы шэраг даследаванняў, прыйшоў да высновы, што звон дае абязбольваючы эфект. Па звестках вучоных, лепш за ўсё змяншаюцца болі ў касцях, здымаюцца прыступы астмы, лечацца язва і язвавы каліт. Цікава, што аўдыё і відэазапіс званоў ні разу не далі такога эфекту.



Вучоныя Інстытута літасферы Зямлі, зацікавіўшыся лекавымі ўласцівасцямі звону ў перыяды эпідэмій, дасканальна даследавалі гук.

Акадэмік Ф. Шэпуноў, які займаўся званамі ў 80-я гады, адзначыў, што званы выпраменьваюць вялікую колькасць рэзанансной ультрагукавой радыяцыі, якая існуе здаўна. У прыродзе існуе гук і шум, першы — гаючы для ўсяго жывога, другі — разбуральны. Шум збіраецца ў жывым і можа разбурыць не толькі клеткі, але і ўвесь арганізм, а гук спрыяе жыццядзейнасці клеткі. Вучоныя падлічылі, што расійскі патэнцыял выпраменьвання званоў ва ультрагукавым дыяпазоне да 30-х гадоў, а гэта 1270 манастыроў, абшчын і прыходаў і прыкладна 30 тысяч цэркваў, быў такой сілы ў час вялікіх свят, што ракета сярэдняй адлегласці дзеяння адхілілася б ад сваёй траекторыі.Такім чынам, Расія фактычна знаходзілася пад гукавым "парасонам".І ўсё гэта было ліквідавана. Звон жа абясшкоджвае вірусы грыпу, жаўтухі і інш., у некалькі хвілін знішчае тыфозную палачку і іншыя інфекцыі. Няверуючыя вучоныя здзіўляюцца: адкуль усё гэта ведалі многа стагоддзяў назад нашы продкі, догі час звонячы ў званы, каб пазбецца эпідэміі.А веруючыя вучоныя адказваюць: "Гэтыя веды ад Бога!"

Цікавы выпадак адбыўся ў Свята- Успенскай Пачаеўскай Лаўры. Неяк прыехала сюды жанчына з 5-і гадовай дзяўчынкай, якая два гады назад пазбавілася слыху. Маці вадзіла яе па ўрачах, патраціла шмат сродкаў на лячэнне, але ўсё безвынікова. Памаліўшыся перад цудатворнай Іконай Пачаеўскай Божай Маці, атрымаўшы благаславенне ў Ігумена, падняліся маці з дачушкай на званіцу. Перахрысціўшыся, манах- званар зазваніў у вялікі Благавест да пачатку Вячэрняй службы. Першы, другі, трэці ўдар званоў, і раптам малеча падскоквае і крычыць: «Матуля! Я чую!». Для маці не было большага шчасця. Аб цудзе было абвешчана Ігумену, і адразу па заканчэнні Вячэрні быў адслужаны Падзячны Малебен Збавіцелю. А колькі такіх збаўленняў адбываецца ў нашыя дні ў Полацкім Спаса-Ефрасіньнеўскім, Свята-Успенскім Жыровіцкім і іншых манастырах нашай роднай Беларусі і ў іншых Храмах!

Раней па звоне суседніх Храмаў маглі даведацца, дзе і якое прастольнае свята, адкуль едзе і куды «Яго Высокапрэасвяшчэнства», па вянчальным перазвоне — адкуль жаніх і нявеста, па пахавальным — з якой вёскі і хто такі нябожчык. Да ўсяго, на Беларусі быў цікавы выраз « даваць на пазвонныя». Так запазычнік, калі яму не аддавалі доўг, даваў грошы званару з просьбай у вызначаны час выканаць пахавальны звон па сваім даўжніку, яшчэ жывым. Доўг пасля звону вельмі хутка вяртаўся. Каму прыемна слухаць пахавальны звон пры жыцці? Гэта мудрая традыцыя дазваляла абыходзіцца без судоў.

У нас ніколі раней не было школ царкоўнага звону. «Нараджаліся» званары на Светлай сядміцы, калі кожны ад мала да вяліка дапускаўся пазваніць на званіцу. Сёння майстэрству званоў вучаць у Мінскай школе званароў, што пры Храме Божай Маці «Усіх смуткуючых радасць».Прыходзьце сюды, і вы даведаецеся, якая гэта радасць — званіць у звон.

**Алена ШАЦЬКО**

**P. S. А. Шацько займаецца вывучэннем гісторыі званоў і званарнай вытворчасці 18 — 19 ст. на Беларусі.**

**Вядома, што ў Мінску быў завод Барташэвіча, але невядомы лёс званоў, якія там выраблялія. Калі, хто зможа дапамагчы А. Шацько ў яе пошуках, пішыце ў "ЛіМ".**

ВЫДАННІ

# ЗАЛАТЫ ВЕК НАШАЙ ГІТАРЫ

***Нотны зборнік "Беларуская гітарная музыка" быў укладзены Валерыем Жывалеўскім і падрыхтаваны да выдання яшчэ на пачатку 90-х гадоў мінулага (!) стагоддзя. Праблемы з аплатай паліграфічных паслуг затрымалі выхад чаканага нотадруку. Але дзякуючы спонсарскай падтрымцы лідскага ТАА "ВКЦ "Онікс" (Сяргей Гейль) другі год карыстаюцца музыканты унікальным зборнікам, які набывае папулярнасць і за мяжой: п'есы з яго ўжо ёсць у рэпертуары германскіх, амерыканскіх выканаўцаў. Адзін з вядучых гітарыстаў Еўропы Павел Штайдл (Галандыя) таксама грае цяпер на сваіх канцэртах беларускую музыку.***

Як вядома, у XX ст. гітарнае мастацтва апынулася на хвалі адраджэння і распаўсюджвання па свеце. Беларусь далучылася да гэтага працэсу дзякуючы шмат у чым творчай актыўнасці ды арганізатарскай дзейнасці Валерыя Жывалеўскага — вядомага артыста, педагога, першага і, мабыць, адзінага даследчыка гітарна-лютневай культуры на беларускіх землях.

Укладальнік новай нотнай кніжкі знайшоў нямала дакументальных, літаратурных сведчанняў таго, што гітара і яе папярэдніца лютня былі вельмі распаўсюджаныя на землях нашых у старажытнасці, што гітара была спадарожніцай побыту беларусаў і ў XIX ст. Разам са сваімі спадзвіжнікамі ён падрыхтаваў арыгінальную музычную анталогію, вызначыўшы ў ёй тры раздзелы. "Полацкі сшытак" (знаны помнік XVII ст.), 6 п'ес з якога аранжыраваў наш вядомы гітарыст Яўген Грыдзюшка. "Віленскі сшытак" (помнік музычнай культуры ВКЛ), лютневая табулатура якога расшыфравная летувіскім спецыялістам Сігітасам Шылінскасам, а для гітары ды спінета апрацавана Валерыем Жывалеўскім ды Барысам Спектарам. 6 п'ес "Ліцвінскія фантазіі" — цыкл з 9 твораў, напісаных В. Жывалеўскім на тэмы беларускіх народных песень (варыяцыі "Павей, ветрык, павей", "У полі бяроза", бахіяна "Ой, пойдзем, сястрыцы", танец "Цярэшка" ды інш.).




Аздоблены зборнік адмысловай графікай Міхася Барздыкі.

Не так даўно вучань В. Жывалеўскага, лаўрэат міжнародных конкурсаў Ян Скрыган запісаў у Галандыі CD, на якім прадстаўлены творы Дзяніса Асімовіча, Уладзіміра Захарава, Галіны Гарэлавай і п'есы са зборніка "Беларуская гітарная музыка". Такім чынам распаўсюджваецца міжнароднае прызнанне беларускай гітарнай культуры, якая мае не толькі багаты радавод, але і таленавітых адданых спадкаемцаў.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

## АНОНС

# УСЁ ЗАВЕРШЫЦЦА СВЯТАМ



У дачарнобыльскі перыяд на Палессі працавала група навукоўцаў пад кіраўніцтвам акадэміка Расійскай акадэміі навук Мікіты Талстога, у тым ліку прадстаўнікі Беларусі. Вынікам стаўся вялікі палескі архіў у Інстытуце славістыкі РАН. Мікіта Талстой назваў Палессе унікальным рэгіёнам для даследчыкаў старажытнай славянскасці. Дзесяткі работ акадэміка і яго жонкі Святланы, якая працягвае працу Талстога, прысвячаецца унікальным этналінгвістычным з'явам гэтага самабытнага кутка нашай зямлі.

15 красавіка — 80-годдзе М. Талстога. Гэтаму юбілею прысвячаецца *першая на Беларусі* Міжнародная этналінгвістычная канферэнцыя, заяўкі на ўдзел у якой даслалі навукоўцы з 10 краін. Яна пройдзе 25—27 красавіка на філфаку БДУ. У праграме — больш як 60 навуковых дакладаў і паведамленняў, а таксама фестываль аўтэнтычнага фальклору Палесся, дзе і працаваў М. Талстой.

Апафеозам стане традыцыйнае нацыянальнае свята "Вялікдзень — 2003" у Траецкім прадмесці.

*Фота з архіва Міколы КОТАВА*

## ПАСПЯШАЙ!

# КАМУ — КАРОНА?

Абвесткі сёлетняй рок-каранацыі — з партрэтам У. Мулявіна: імпрэза і прысвячаецца памяці Песняра. Удзельнічаюць "N.R.M.",



"Крама", "Ляпис Трубецкой", "Стары Ольса", "Нейро Дюбель", Зміцер Вайцюшкевіч ды інш. Гэта будзе сёння, 25 красавіка, у канцэртнай зале "Мінск". Пачатак а 19-й гадзіне.

## У СТАЛІЦЫ



**27 — Вакальная група "Чысты голас"**. Велікодны канцэрт у Цэнтральным доме афіцэраў (вул. Чырвонаармейская, 3).

**29 — Іван КІРЧУК,** лідэр этнатрыо "Тройца" *са сваёй сольнай* праграмай "Варажбіт". Канцэртная зала "Мінск (вул. Кастрычніцкая, 5).

**29, 30, 1 — "Метро"**, легендарны расійскі мюзікл. Палац Рэспублікі.

**4 — Дзяржаўны фальклорна-харэаграфічны ансамбль "Харошкі"** (мастацкі кіраўнік В. Гаявая). Новая праграма "Пілігрымы" ў Палацы Рэспублікі.

## АФІША КРАСАВІКА — МАЯ



**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета**
**пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-06-66**

**25** — А. Адан "Карсар"
**27** — А. Мдзівані "Страсці (Рагнеда)"
**29, 30, 4** — П. Чайкоўскі "Лебядзінае возера"
**2** — П. Чайкоўскі "Шчаўкунчык"
**7** — Г. Герольд "Марная перасцярога" (прэм'ера)

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы**
**пл. Парыжскай Камуны, 1, тэл. 234-10-41**

**3, 4** — XII Велікодны фестываль. Велікоднае турне Расійскага нацыянальнага аркестра, канцэрты, прысвечаныя 100-годдзю І. Салярцінскага
**8** — Канцэрт саліста Беларускай оперы і Марыінскага тэатра (Санкт-Пецярбург) Сяргея ДРАБЫШЭЎСКАГА

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Беларускі дзяржаўны музычны тэатр**
**вул. Мяснікова, 44, тэл. 220-81-26, 220-92-54**

**25** — І. Штраус "Ноч у Венецыі", карнавал
**26** — І. Штраус "Лятучая мыш", аперэта
**29** — Ц. Хрэннікаў "Даратэя", камічная опера
**30** — "Галактыка кахання", музычнае шоу

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы**
**вул. Энгельса, 7, тэл. 227-17-17**

**25, 26** — А. Дудараў "Чорная панна Нясвіжа", містычная легенда аб каханні
**30, 5** — А. Дзялендзік "Смак яблыка", камедыя
**2** — А. Дудараў "Кім", "крымінальная" меладрама
**3** — Д. Патрык "Дзіўная місіс Сэвідж", камедыя (прэм'ера)
**4** — Я. Купала "Паўлінка"

**Малая сцэна**
**вул. Энгельса,12**

**23** — І. Бергман "Восеньская саната", псіхалагічная драма
**25** — Я. Баршчэўскі "Беларусь у фантастычных апавяданнях" (прэм'ера)
**26** — Д. Хуан "Дом, дзе спяць прыгажуні", японская гісторыя
**27** — А. Казанцаў "Брат мой, Сіман", драма
**28** — А. Петрашкевіч "Дагарэла свечачка", маналог актрысы
**30, 8** — М. Сайман "Я не пакіну цябе..." (прэм'ера)
**5** — С. Кавалёў "Саламея", летапіс кахання

**Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага**
**вул. Валадарскага,5, тэл. 220-15-41, 220-39-66**

**Вялікая сцэна**

**25, 30** — М. Горкі (нью) "Дзівакі", праўдзівая гісторыя
**26** — Э. Томпсан "На залатым возеры"
**27** — "Амфітрыён", інтымныя сцэны з жыцця людзей і багоў
**29** — Я. Купала "Раскіданае гняздо"

**Малая сцэна**

**4** — Ж.-К. Брысвіль "Вячэра", драма

**Пачатак ранішніх спектакляў а 11-й, вячэрніх а 19-й гадзіне**

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі**
**вул. Крапоткіна, 44, тэл. 234-60-08**

Тыдзень лепшых прэм'ер РТБД (У Палацы Рэспублікі)

**25** — С. Алексіевіч "Чарнобыльская малітва"
**26** — Д. Альмагор "Толькі дурні сумуюць"
**29, 3** — А. Курэйчык "Понцій Пілат"
**30, 7** — А. Шчуцкі "Каласнікі", трагікамедыя (прэм'ера)
**2** — Я. Таганаў "Адэль", гісторыя кахання. Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне
М. Адамчык, М. Клімковіч "Чорны квадрат"

**Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр**
**вул. Даўмана,1, тэл. 289-32-62**

**25** — Ж.-Б. Мальер "Хітрыкі Скапэна", камедыя
**26, 2** — Б. Шоу "Пігмаліён", раман
**29, 8** — Т. Уільямс "Трамвай "Жаданне"
**30** — І. Зінгер "Тойбеле і яе дэман", трагікамедыя
**3** — У. Шэкспір "Жарсці ў Віндзоры", камедыя
**4** — А. Астроўскі "Позняе каханне"

**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне**

**Тэатр-студыя кінаакцёра**
**пр. Машэрава,13, тэл. 223-08-11**

**29, 30** — Л. Жухавіцкі "Апошняя жанчына сіньёра Хуана", авантурная камедыя
**2** — Ф. Саган "Стрэмка" (прэм'ера)
**3, 4** — А. Астроўскі "Таленты і прыхільнікі"
**7, 8** — Э. дэ Філіпа "Філумена Мартурана"

**Пачатак спектакляў а 19-й гадзіне**

*НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля "Я не пакіну цябе..."*

**Фота Я. КОКТЫША**

## АКЦЭНТ

***"Усяночнае дбанне" С. Рахманінава***

# КАПЭЛА ДБАЕ...

***выканае Акадэмічная харавая капэла Беларусі імя Р. Шырмы.***

Выступленне адбудзецца заўтра, 26 красавіка, у зале Беларускай акадэміі музыкі (вул. Інтэрнацыянальная, 30) і ўпрыгожыць панараму сёлетняга фэсту "Мінская вясна". Такім чынам шырмаўцы на чале з мастацкім кіраўніком Л. Яфімавай адзначаць і юбілейны рахманінаўскі год, і чарговую дату Чарнобыля, і надыход Вялікадня паводле праваслаўнага календара.

Падчас нядаўняй сустрэчы з журналістамі Людміла Яфімава звярнула ўвагу на праблему распаўсюджвання сур'ёзнага мастацтва, актуальную для нашай краіны. "Усе распешчаны масавым камерцыйным шоу, прывабіць публіку на харавы канцэрт складана, — падкрэсліла яна. — Але Беларуская дзяржаўная філармонія, як інстытут класічнай культуры, закліканы выхоўваць слухача на аснове сапраўднага мастацтва, трымае свой штандар і не збіраецца яго выпускаць з рук. Гэта падтрымлівае цікавасць да музычнай творчасці не толькі ў асяроддзі спецыялістаў.

Тое, што цікавасць ёсць, Л. Яфімава адчула падчас нядаўніх канцэртаў капэлы ў Гродне ды Лідзе. Слухачы, і пераважна не музыканты, падыходзілі да выканаўцаў, дзякавалі за праграму. Між тым, выконваліся не папулярныя песенныя нумары, а ўсё яшчэ малавядомыя старадаўнія беларускія партытуры 16—18 стст. Прынамсі, фрагменты і фінал з оперы А. Радзівіла "Фаўст", матэты А. Рагачэўскага, псальм Вацлава з Шамотул.

Гастралюючы па Германіі ды Галандыі, нашы артысты даведаліся, што там людзі лічаць народную музыку прыдатнай для адмысловых святаў, для застолляў, ад канцэртных праграм яны чакаюць выканання прафесійных твораў, хочуць паслухаць жывое гучанне класікі. Дзеля гэтага на канцэрт і прыходзяць, дзве гадзіны слухаюць класічную праграму — у чым і пераканаліся шырмаўцы.

Са старадаўнім беларускім рэпертуарам капэла выступіла і на Гомельшчыне. Яркая і дыхтоўная харавая музыка, гістарычная спадчына Беларусі, на жаль, толькі-толькі адкрываецца шырокай публіцы. А яе адроджаныя старонкі, на думку Л. Яфрэмава, беларусы хочуць слухаць, маюць права і павінны ведаць.

**С. Б.**



Выходзіць З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**
**Віктар ШНІП**

**Рэдакцыйная рада:**

Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Леанід ГАЛУБОВІЧ,
Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,
Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,
Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
галоўны рэдактар — 284-6673
намеснік галоўнага рэдактара — 284-4404
адказны сакратар — 284-6673

**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 284-7965
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965
літаратурнага жыцця — 284-7965
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965
паэзіі і прозы — 284-7965
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно — 284-8153
выяўленчага мастацтва — 284-7965
карэктарская — 284-8091
бухгалтэрыя — 284-6672
Тэл./факс — 284-85-25

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1636
Нумар падпісаны ў друк 23.04.2003 у 15.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 1022

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12